● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

18 красавіка 1996 г. чацвер, № 102 (22905)

# ЗВЯЗДА



## НАДЗЁННА

### ЦІ ПАВЯЛІЧЫЦЦА ПЛАТА ЗА ЖЫЛЛЁ?

**Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» начальнік эканамічнага ўпраўлення Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Вахтанг Валажынец, да заканчэння ацяпляльнага сезона змены тарыфаў кватплаты і камунальных паслуг не будзе.**

Цяпер міністэрства ўнесла ў Кабінет Міністраў Беларусі прапанову аб тым, каб пакінуць узровень платы насельніцтва за жыллё пасля заканчэння ацяпляльнага сезона на ранейшым узроўні. Такое «змяненне» платы за жыллё на першы погляд можа здацца амаль непрыметным (летам мы будзем плаціць нават на 10—15 працэнтаў менш, чым у зімовы перыяд). Аднак фактычна гэтае рашэнне прывядзе да павелічэння тарыфаў па кватплаце ў 1,7 раза, па цеплаэнергіі (гарачая вада і ацяпленне) — у 1,4 раза, па вадзе і каналізацыі — адпаведна ў 2—2,5 раза. Усяго ж па заканчэнні ацяпляльнага сезона нам, відаць, давядзецца плаціць за жыллёва-камунальныя паслугі на 40 працэнтаў больш.

Дарэчы, рашэнне аб заканчэнні ацяпляльнага сезона прымаецца выканкомамі на месцах пры ўстанаўленні сярэднясутачнай тэмпературы не ніжэй 8°С.

**Сяргей КУРКАЧ.**



## ЖЫХАРЫ «ЧАРНОБЫЛЬСКІХ» РАЁНАЎ НЕ ЗАСТАНУЦЦА БЕЗ ПАДТРЫМКІ

«У першую чаргу будзем дапамагаць старым і дзецям», — гэтыя словы не раз гучалі з вуснаў Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў час яго сустрэч з жыхарамі Столінскага раёна, адкуль ён пачаў свой візіт па рэгіёнах краіны, што найбольш пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. А такія сустрэчы з палешукамі 16 красавіка ў яго праходзілі да позняга вечара.

Сур'ёзная размова аб праблемах развіцця мясцовага аграрнага сектара адбылася ў Доме механізатара калгаса «Беларусь», куды прыехалі кіраўнікі раённых службаў, гаспадарак, выканкомаў сельскіх Саветаў. У прыватнасці, была падкрэслена неабходнасць расшырэння ў раёне плошчы ворных зямель, тым больш, што магчымасці для гэтага ёсць. Толькі за кошт канфіскацыі зямлі ў ваеннага палігона і лесараспрацовак можна павялічыць пасяўныя плошчы на 1200 гектараў. Кіраўнікам аграрнага сектара рэспублікі, якія прысутнічалі на сустрэчы, было дадзена даручэнне вырашыць яшчэ адно праблемнае для столінцаў пытанне — авансаванне закупак маладняку жывёлы ў насельніцтва.

Не былі абыдзены ўвагай на сустрэчы і праблемы паводкі. У яе вялікіх маштабах пераканаўся сам кіраўнік дзяржавы, зрабіўшы аблёт раёна на верталёце. Таму і размова ішла прадметная. Прэзідэнт паабяцаў адшукаць сродкі для завяршэння будаўніцтва моста праз рэчку Чаква. Будзе таксама вывучана пытанне адсыпання трохкіламетровай дамбы ля вёскі Бухвічы.

Напярэдадні горкага чарнобыльскага юбілею столінцы расказалі Прэзідэнту і аб немалых праблемах у ахове здароўя. Выслухаўшы іх, ён унёс карэктывы ў сваю праграму, вырашыўшы пабываць у Столінскай раённай бальніцы. Праўда, раней адбылася яшчэ адна незапланаваная сустрэча — з жыхарамі вёскі Струга. Даведаўшыся, што Прэзідэнт будзе ехаць праз гэту вёску ў Столін, некалькі тысяч сялян сабралася ў цэнтры, дзе і спыніўся кіраўнік дзяржавы. Больш за гадзіну працягвалася тут размова, у час якой сяляне выказвалі свае жыццёвыя патрэбы, цікавіліся перспектывамі развіцця краіны. Як і ў іншых месцах, многія з іх дзякавалі Прэзідэнту за развіццё беларуска-расійскіх адносінаў.

Да райбальніцы ж прэзідэнцкі картэж пад'ехаў, калі ўжо пачало цямнець. Галоўны ўрач Уладзімір Сякрэта расказаў аб сваіх клопатах. За кошт чарнобыльскіх сродкаў тут разгорнута будаўніцтва. Для ўводу ў строй аб'ектаў трэба адшукаць каля 16 мільярдаў рублёў. І пазіцыя Прэзідэнта ў гэтым пытанні была адназначная: неабходна завяршаць новабудоўлі.

Матэрыяльнае забеспячэнне вытворчасці, дастаўка насельніцтву прадуктаў харчавання, медыкаментаў, своечасовасць выплаты заработнай платы і пенсій сталі асноўнымі тэмамі размовы Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з жыхарамі саўгаса «Судкова» Хойніцкага раёна. Гэта сустрэча адбылася раніцай 17 красавіка. Нягледзячы на вастрыню абмяркоўваемых праблем, «дыялог народа і ўлады» прайшоў у добразычлівай і канструктыўнай атмасферы.

Саўгас «Судкова» унікальны тым, што праз яго праходзіць своеасаблівая лінія жыцця. Усяго ў 2 кіламетрах ад цэнтральнай сядзібы калючы дрот,

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## РАБОЧЫ КАНТРОЛЬ

### БЯРЫ, ДЫ ВЕДАЙ МЕРУ

**Такой абдзіралаўцы, як у магілёўскіх жыллёва-эксплуатацыйных участках, маглі б пазайздросціць адпетыя рэкеціры. Інспекцыя рабочага кантролю абласнога савета аб'яднання прафсаюзаў праверыла гарадскія ЖЭУ на прадмет спагнання платы з кватэранаймальнікаў і скрозь і ўсюды выявіла факты перабору грошай.**

У ЖЭУ-9, напрыклад, тарыфы пры налічэнні кватплаты былі для ўладальнікаў асобных дамоў завышаны на 40 працэнтаў. На поўную катушку спаганялі камунальнікі за карыстанне ацяпленнем, вадой, ліфтамі, хаця ў асобных выпадках не было ні першага, ні другога, ні трэцяга. Наіўным грамадзянам вельмі цяжка разабрацца ў новай методыцы налічэння платы за камунальныя паслугі, чым і карыстаюцца дзяржаўныя вымагальнікі.

Падобна, перабор можа працягвацца, бо з красавіка ў Магілёве пачалося выбарачнае аказанне тых самых паслуг. Насельніцтва папярэдзілі, што тэмпература гарачай вады будзе паніжана на 15 градусаў. У мэтах эканоміі энергарэсурсаў абмежавана і ацяпленне: батарэі будуць падагравацца раніцай і ўвечары. У сувязі з чым людзі пачалі задаваць пытанні: ці можна такую «гарачую» ваду лічыць гарачай? І за якое такое абаграванне трэба плаціць, калі ацяпляльныя сістэмы не паспяваюць прагрэцца?

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

## У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў прынятай пастановай зацвердзіў Палажэнне аб парадку кансервацыі прадпрыемстваў і вытворчых магутнасцей пры іх працяглым спыненні або няпоўнай загрузцы.

У пастанове ўстаноўлена, што рашэнне аб кансервацыі дзяржаўных прадпрыемстваў, маёмасць якіх знаходзіцца ў рэспубліканскай уласнасці, пры іх працяглым спыненні або няпоўнай загрузцы прымае Кабінет Міністраў ці ўпаўнаважаны ім орган, аб кансервацыі вытворчых магутнасцей - міністэрствы, іншыя цэнтральныя органы кіравання, дзяржаўныя аб'яднанні, створаныя па рашэнню ўрада нашай рэспублікі.

Прадпрыемствы, гаворыцца далей у пастанове, у статутным фондзе якіх няма долі дзяржаўнай маёмасці, прымаюць рашэнне аб кансервацыі прадпрыемства або вытворчых магутнасцей у парадку, устаноўленым іх уласнікам.

Міністэрствам, іншым цэнтральным органам кіравання, дзяржаўным аб'яднанням, створаным па рашэнню ўрада Рэспублікі Беларусь, неабходна на працягу шасці месяцаў пасля прыняцця рашэння аб кансервацыі прадпрыемстваў або вытворчых магутнасцей прадстаўляць Міністэрству па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі, міністэрствам эканомікі і фінансаў мерапрыемствы па далейшаму выкарыстанню, перапрафіляванню або продажы гэтых прадпрыемстваў ці вытворчых магутнасцей.

Рэкамендавана аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому ўстанавіць у адносінах да прадпрыемстваў і вытворчых магутнасцей, што знаходзяцца ў камунальнай уласнасці, пры іх працяглым спыненні або няпоўнай загрузцы парадак кансервацыі, аналагічны прадугледжанаму гэтай пастановай.

x x x

Кабінет Міністраў у мэтах выканання ўказа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 3 снежня 1994 г. № 247 прыняў пастанову аб прымяненні ў Рэспубліцы Беларусь правілаў Еўрапейскай эканамічнай камісіі ААН.

Названай пастановай ускладзена на Камітэт па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі Міністэрства адукацыі і навукі арганізацыя работ па прымяненню правілаў Еўрапейскай эканамічнай камісіі ААН нумар 1-4, 6, 7, 9-14, 16-19, 23-30, 32-43, 46, 48-63, 67, 68, 71, 73, 74, 77-83, 86, што з'яўляюцца дапаўненнем да Пагаднення аб прыняцці аднолькавых тэхнічных прадпісанняў для колавых транспартных сродкаў, прадметаў абсталявання і частак, якія могуць быць устаноўлены і (або) выкарыстаны на колавых транспартных сродках, і аб умовах узаемнага прызнання афіцыйных пацвярджэнняў, што выдаюцца на аснове гэтых прадпісанняў.

Камітэту па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі Міністэрства адукацыі і навукі таксама дадзена права вызначэння тэхнічных службаў па рэалізацыі правілаў Еўрапейскай эканамічнай камісіі ААН.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

## НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМАНДЗЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ХАКЕЮ

Дарагія рабяты!

Не засмучайцеся. Вы паказалі хакей высокага міжнароднага класа. Памятайце: нашаму народу патрэбна не толькі перамога. Нам не менш важны прыгожы сучасны хакей. Менавіта такі хакей Вы дэманструеце.

Сёння ў Еўропе Вы прадстаўляеце нашу маладую суверэнную дзяржаву. І прадстаўляеце дастойна. Мільёны вачэй беларусаў, Вашых родных, сяброў, дзяцей і моладзі скіраваны на экраны тэлевізараў.

Беларусь у гэтыя дні хварэе нашым нацыянальным хакеем. Вы ўжо зрабілі вялікую справу: пераканалі не толькі Прэзідэнта краіны, але і ўсіх дзяржаўных мужоў у тым, што спорт — гэта вялікая сіла і ідэалогія дзяржавы, што аб'ядноўвае людзей, на якую нельга шкадаваць сіл і сродкаў.

Дарагія мае суайчыннікі! Ведаю, Вам вельмі цяжка, але трымайцеся дастойна. Чакаем ад Вас і надалей упэўненай, прыгожай гульні. Мае прывітанне ўсім членам нацыянальнай каманды, нашым журналістам: Уладзіміру Навіцкаму і Уладзіміру Беражкову, якія страсна, з душой і сэрцам расказваюць нам аб гульнях выдатнай беларускай хакейнай каманды.

Удачы Вам, дарагія сябры, і са святам Праваслаўнага Вялікадня — Уваскрэсеннем Хрыстовым.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

## АПАГЕЙ ПАВОДКІ, ЗДАЕЦЦА, МІНАЕ

На Палессі паводка дасягнула свайго апагея. Хаця Прыпяць выглядае даволі мірна і на Піншчыне сітуацыя не крытычная, але ў цэлым стыхія разгулялася, асабліва на Століншчыне. Многія вёскі апынуліся ў палоне вады, узровень якой напрыканцы мінулага тыдня дасягнуў ледзь не шасціметровай адзнакі. А самы высокі ўзровень вады на Століншчыне зафіксаваны на вышыні 632 см у 1979 годзе.

Але па ўсім відаць, што катастрофы не будзе, ды і страты ад паводкі не будуць рэкорднымі. Узровень вады рэзка знізіўся. І ўсё ж 820 дамоў на Століншчыне аказаліся падтопленымі.

Паводка пайшла на поўнач. За выхадныя дні яна набрала сілу ў Ганцавіцкім, Ляхавіцкім, Баранавіцкім і іншых раёнах. Разлілася Шчара, і вада хлынула ў Нёман, які месцамі таксама моцна разліўся. У раёне Стоўбцаў вада падступіла да многіх дамоў.

Людзі ў паўночных раёнах чакалі, што затопіць скляпы, але, на дзіва, усё абышлося. Хаця снегу ляжала вельмі многа, начныя замаразкі ды паступовае раставанне снегу змякчылі сітуацыю. Гэты тыдзень, па ўсім відаць, будзе больш спакойны. Снег амаль увесь сышоў з палёў, так што пад'ёму вады не чакаецца.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## ПАВОДКА І БЯДУ НЯСЕ, І ПРАЦУ ДАЕ

Як заўважылі некалі яшчэ нашыя продкі, адна і тая ж рэч або з'ява можа быць адначасова і дабром, і злом — у залежнасці ад таго, як да яе ставіцца. Вось і паводка: калі кіраўнікі гаспадарак, транспартнікі толькі і чакаюць, калі яна скончыцца, дык меліяратары прыкладаюць усе намаганні, каб гэтую самую ваду ... затрымаць.

Як паведамілі карэспадэнту «Звязды» ў Беларускім дзяржаўным канцэрне па будаўніцтву і эксплуатацыі меліярацыйных і водагаспадарчых сістэм «Белмеліявадгас», ужо зараз паралельна з пропускам праз рэкі і вадасховішчы паводкі пакрысе (з улікам мясцовых асаблівасцей) пачалося закрыццё водарэгулюючых збудаванняў з мэтай назапашвання вады для патрэб гаспадарак, на вясннова-летні перыяд.

Што тычыцца самога працэсу праходжання «вялікай вады», то, як адзначыў першы віцэ-прэм'ер канцэрна Мікалай Паліўка, па ўсёй тэрыторыі краіны ўдалося пазбегнуць якіх бы то ні было пашкоджанняў і разбурэнняў меліярацыйных сістэм і збудаванняў. Гэта стала магчымым дзякуючы як своечасовым мерам адпаведных службаў (дзяжурствы на дамбах, помпавых станцыях і г.д), так і спецыфічным умовам надвор'я, у выніку якіх талая вада часткова пайшла ў глебу і паводка па сваёй магутнасці (нягледзячы на снежную зіму) не пераўзышла сваіх «папярэдніц».

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## РЭАЛІІ НАД ПАЛІТЫЧНЫМІ АНАМАЛІЯМІ

**Наша рэспубліка ўступае ў рашаючы перыяд сацыяльна-эканамічных рашэнняў. Новы год пачаўся паглыбленым аналізам народна-гаспадарчых праблем. Створаны эканамічны саюз чатырох: Беларусі, Расіі, Казахстана, Кыргызстана, садружнасць Беларусь—Расія; устаноўлены ўзаемавыгадныя адносіны з суседзямі — Украінай, Польшчай, Літвой і многімі еўрапейскімі краінамі.**

**Суверэнная Беларусь упэўнена накіроўваецца ў XXI стагоддзе. Аднак рэалізацыя гэтага феномена палітычнымі сіламі рэспублікі моцна адстае ад маштабнасці глабальных задач.**

Лёсам было наканавана, каб паступова сціхлі размовы і дыскусіі аб дэпалітызаваным ці вельмі палітызаваным грамадстве. Такі падыход да характарыстыкі масавай свядомасці меў павярхоўны сэнс і фактычна прыстасоўваўся да лозунгавых мэтаў узнікаючых партый і рухаў, якія шукалі і часта не знаходзілі апоры ў грамадстве.

З аднаго боку чуліся папрокі, што насельніцтва рэспублікі апалітычнае, калі выбаршчыкі недаборам галасоў выказвалі свае адносіны да тых, хто імкнуўся ў парламент.

**(Заканчэнне на 4-й стар.)**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 142

### АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯ ВА УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 8 ЛЮТАГА 1995 г № 52

У мэтах абароны інтарэсаў беларускіх таваравытворцаў **пастанаўляю:**

1. У абзацы трэцім пункта 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 8 лютага 1995 г. № 52 «Аб устанаўленні парадку рэгулявання экспартна-імпартных і валютных аперацый і аб павышэнні адказнасці за парушэнне заканадаўства ў галіне знешнеэканамічнай дзейнасці» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 5, арт. 98) лік «60» замяніць лікам «120».

2. Прапанаваць Нацыянальнаму банку ў тыднёвы тэрмін прыняць рашэнні, якія забяспечылі б выкананне пункта 1 гэтага Указа.

3. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
А. ЛУКАШЭНКА**

12 красавіка 1996 г.
г. Мінск.

## АБ ІНДЭКСЕ СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН ЗА САКАВІК 1996 ГОДА

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў сакавіку 1996 года ў параўнанні з лютым 1996 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 102 працэнты, у параўнанні са студзенем 1996 года — 106,1 працэнта.

У параўнанні са снежнем 1995 года цэны на спажывецкія тавары і паслугі павялічыліся ў 1,1 раза.

**Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь.**

## КАМЕНТАРЫЙ ДА ПАВЕДАМЛЕННЯ МІНІСТЭРСТВА СТАТЫСТЫКІ І АНАЛІЗУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ ІНДЭКСЕ СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН ЗА САКАВІК 1996 ГОДА

У сувязі з апублікаваннем індэкса спажывецкіх цэн за сакавік 1996 года Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь паведамляе, што, паколькі індэкс спажывецкіх цэн, вылічаны нарастаючым вынікам з моманту папярэдняй індэксацыі, перавысіў пяціпрацэнтны парог, даходы насельніцтва за сакавік бягучага года, атрымліваемыя з бюджэтных крыніц (сацыяльныя пенсіі, дапамогі, стыпендыі, заработная плата, грашовае забеспячэнне), індэксуюцца на 6,1 працэнта (1,04 x 1,02/ x 100/ з прымяненнем пераменнай шкалы нарматываў індэксацыі на кожны працэнт прыросту спажывецкіх цэн для розных частак даходу:

у межах 200000 рублёў — 1 працэнт;

ад 200001 да 400000 рублёў — 0,5 працэнта.

Частка даходу, якая перавышае 400000 рублёў, не індэксуецца.

Грашовыя кампенсацыі, прадугледжаныя пастановамі Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 студзеня 1995 г. № 7 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і матэрыяльнай падтрымцы асобных катэгорый грамадзян» і ад 26 лютага 1995 г. № 106 «Аб мерах па сацыяльнай падтрымцы насельніцтва», індэксацыі не падлягаюць.

Насельніцтву, якое атрымлівае даходы з іншых крыніц, кампенсацыя страт ад інфляцыі ажыццяўляецца па падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі). Пры гэтым выплаты кампенсацыі ўрону, нанесенага калецтвам або іншым пашкоджаннем здароўя, звязаным з выкананнем працоўных абавязкаў, індэксуюцца асобна ад іншых даходаў, незалежна ад таго, прадугледжана або не прадугледжана такое палажэнне ў калектыўным дагаворы (пагадненні).

## АБ ІНДЭКСЕ ЦЭН ВЫТВОРЦАЎ ПРАДУКЦЫІ ВЫТВОРЧА-ТЭХНІЧНАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ ЗА САКАВІК 1996 ГОДА

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў сакавіку 1996 года ў параўнанні з лютым 1996 года індэкс цэн вытворцаў прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння склаў 100,3 працэнта, у параўнанні са снежнем 1994 года — 224,1 працэнта, са снежнем 1995 года — 104,5 працэнта.

**Мінстат Рэспублікі Беларусь.**

# ЖЫХАРЫ «ЧАРНОБЫЛЬСКІХ» РАЁНАЎ НЕ ЗАСТАНУЦЦА БЕЗ ПАДТРЫМКІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

а за ім — зона. Гэта акалічнасць накладае адбітак на эканамічнае развіццё гаспадаркі, на быт людзей. Усё «чорнае» дзесяцігоддзе саўгас узначальвае Мікалай Садчанка. Са шкадаваннем канстатуе ён, што за гэты час эканамічны патэнцыял саўгаса знізіўся амаль на 40 працэнтаў. Але галоўная страта, безумоўна, — людзі. З былых у 86-м годзе 898 працаздольных сёння тут засталося ўсяго 302.

Прэзідэнт зацікаўлена слухаў расказы судкоўцаў аб жыцці і быце, пабываў у сярэдняй шоле на ўроку беларускай мовы і літаратуры і нават пабацькоўску пажурыў вучняў, якія не паспяваюць па гэтых прадметах. На развітанне Аляксандр Лукашэнка пасадзіў ля школы дрэва.

Далейшы маршрут паездкі Прэзідэнта па Хойніцкаму раёну — саўгас «Стралічава». Некалі буйная гаспадарка за прайшоўшае дзесяцігоддзе перажыла нямала пераўтварэнняў. Адразу ж пасля аварыі на ЧАЭС тут пачалося вялікае будаўніцтва. Але затым фінансаванне поўнасцю спынілася, і людзі пачалі раз'язджацца. Некалькі гадоў таму спецыялісты прыйшлі да думкі, што жыць і працаваць на тэрыторыі саўгаса можна. Прыкладам таго служыць вёска Высокае, якую жыхары спачатку поўнасцю пакінулі, а цяпер сюды вярнуліся 38 чалавек. Запрацавала ў Высокім жывёлагадоўчая ферма. Як паведаміў карэспандэнту яе брыгадзір Андрэй Ляшчун, у гэтым годзе даяркі атрымаюць ад кожнай каровы не менш як 4 тысячы кілаграмаў малака.

Вялікая размова адбылася на цэнтральнай сядзібе саўгаса. Аляксандр Рыгоравіч паведаміў, што ў бліжэйшы час адбудзецца пераарыентацыя чарнобыльскага фінансавання. У асноўным спыніцца будаўніцтва для перасяленцаў у Мінску, Віцебску і іншых гарадах, сродкі будуць укладвацца непасрэдна ў «чарнобыльскія» населеныя пункты. На рэзультаты мінімізацыі вынікаў аварыі, паводле слоў Прэзідэнта, станоўчы ўплыў акажа распрацоўваемая ўрадам жыллёвая праграма будаўніцтва на вёсцы.

Пакідаючы саўгас, Прэзідэнт з задавальненнем адзначыў, што выкананы ўсе яго абяцанні і рэкамендацыі, зробленыя пасля паездкі ў «Стралічава» год таму. Ён таксама падкрэсліў, што саўгас, працуючы ў вельмі складаных эканамічных умовах, дабіваецца высокіх вынікаў.

Ужо не першы раз Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка наведвае радыяцыйную зону ў Магілёўскай вобласці. 17 красавіка ён пачаў вывучэнне чарнобыльскіх праблем у Слаўгарадскім раёне.

У вёсцы Свенск кіраўнік дзяржавы наведаў фізкультурна-аздараўленчы комплекс калгаса «Зара», пабываў у дамах сялян. Потым адбылася яго сустрэча з насельніцтвам мясцовай і суседніх гаспадарак, прадстаўнікамі працоўных калектываў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў раённага цэнтра.

Старшыня райвыканкома Валерый Берастаў, іншыя кіраўнікі і жыхары раёна ўзнялі перад Прэзідэнтам шэраг неадкладных праблем, абрысавалі сітуацыю, у якой людзі жывуць і працуюць. А абстаноўка тут няпростая. Гэты рэгіён — адзін з найбольш пацярпеўшых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Уся тэрыторыя яго забруджана радыенуклідамі. З шаснаццаці населеных пунктаў, дзе найбольш высокі ўзровень радыяцыі, жыхары адселены. Ліквідаваны чатыры гаспадаркі. З сельскагаспадарчага абароту выведзена звыш трох тысяч гектараў зямельных угоддзяў.

Нягледзячы на вялікі ўрон, нанесены стыхіяй, у раёне працягваюць дзейнічаць пятнаццаць калгасаў. Сяляне вырошчваюць хлеб і жывёлу. Прычым дабіваюцца параўнальна нядрэнных вынікаў па ўраджайнасці, вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі.

— Але ўсё гэта даецца нашым працаўнікам з вялікай цяжкасцю, — падкрэсліў кіраўнік раённай вертыкалі ўлады Валерый Берастаў. — У зоне, дзе забруджванне складае ад 5 да 15 кюры на квадратны кіламетр, жыве 88 працэнтаў насельніцтва. Тут выпрацоўваецца 90 працэнтаў усёй прадукцыі. У той час, калі ўся ўвага была ўдзелена перасяленцам, будаўніцтву і добраўладкаванню новых пасёлкаў, сюды не накіравалі ніводнага рубля капітальных укладанняў. Частку тэхнікі, што падверглася радыяцыі, спісалі. Цяпер у гэтых гаспадарках яе не хапае, а купіць новую няма за што. Уся надзея на дапамогу дзяржавы. Не будуецца і жыллё, адстала сацыяльная структура. Для пражывання ў гэтай зоне неабходна экалагічна чыстае паліва, але газіфікацыя райцэнтра і вёсак прыпынілася.

Удзельнікі сустрэчы ўзнялі праблему недахвату кадраў — у раёне цяпер не хапае 35 урачоў, 45 настаўнікаў і многіх іншых спецыялістаў. Кіраўнікоў мясцовага калгаса «Зара» і жывёлаводаў хвалюе лёс Свенскага свінаводчага комплексу, які завінаваціўся 4 мільярды рублёў.

Словам, перад Прэзідэнтам было ўзнята шмат няпростых жыццёвых пытанняў. На кожны з іх ён пастараўся даць канкрэтны адказ, прапанаваўшы спосаб вырашэння.

**БЕЛТА.**

## НОВЫЯ ЎКАЗЫ ПРЭЗІДЭНТА

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сваім указам назначыў Бялова Мікалая Адамавіча генеральным дырэктарам Міжбанкаўскай валютнай біржы.

Гаўрушаў Аляксандр Анатольевіч назначаны старшынёй праўлення Беларускага акцыянернага камерцыйнага аграпрамысловага банка.

Рыкава Людміла Міхайлаўна назначана намеснікам старшыні праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

***

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў Указ аб устанаўленні дыпламатычных адносінаў паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Філіпіны. Міністэрству замежных спраў Беларусі даручана прыняць неабходныя меры па афармленню ўстанаўлення гэтых дыпадносінаў.

**БЕЛТА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### НА ВАЕННЫ КОМПЛЕКС «ГАРОТНАЯ» РАСІЯ ГРОШЫ ЗНАЙШЛА

«Нью-Йорк таймс» паведаміла, што не зважаючы на недахват грошай, Расія будуе на Урале вялізны падземны ваенны комплекс. Да яго будзе падведзена чыгунка і аўтамабільная шаша. Газета друкуе словы некаторых расійскіх прадстаўнікоў, якія сцвярджаюць, што будаўніцтва пачалося яшчэ ў часы Брэжнева. Паводле амерыканскіх экспертаў, комплекс можа мець шырокае прызначэнне: штаб для камандавання ядзернымі сіламі або завод для вытворчасці сакрэтнай зброі.

### АБ ПАЛІТЫЧНЫМ САЮЗЕ РАЗМОВА НЕ ІДЗЕ

Федэральны сакратар НАТО Саланэ выключыў магчымасць няпоўнага членства краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы ў Паўночна-Атлантычным саюзе. Як падкрэсліў Саланэ падчас свайго візіту ў Літву, у НАТО не існуе чыста палітычнай структуры. Раней Масква дала зразумець, што можа пагадзіцца на ўдзел усходнееўрапейскіх краін у палітычнай структуры НАТО, калі гэтыя краіны не будуць уваходзіць у ваенную арганізацыю Паўночна-Атлантычнага саюза. Прэзідэнт Літвы Бразаўскас пасля сустрэчы з Саланэ заявіў, што членства ў НАТО — адзіны спосаб гарантаваць бяспеку краіны.

### ІНШАЗЕМЦАМ НЕ РЭКАМЕНДУЕЦЦА...

Міністэрства замежных спраў Расіі рэкамендавала іншаземцам часова абмежаваць наведванне Паўночнага Каўказа, Чачэнскай Рэспублікі і бліжэйшых да яе раёнаў. Дудаеўскія фарміраванні, пазбаўленыя ранейшых паставак зброі і боепрыпасаў, пачалі напады на замежных грамадзян і захоп заложнікаў з мэтай рабавання ці атрымання выкупу.

### ІНТРЫГІ НА ЕЎРАПЕЙСКІМ РЫНКУ ЯЛАВІЧЫНЫ

Брытанскі прэм'ер Джон Мэйджар заявіў, што яго краіна будзе дабівацца адмены забароны экспарту Еўрапейскім саюзам брытанскай ялавічыны. Забарона была накладзена з прычыны захворвання буйной рагатай жывёлы. Мэйджар сцвярджае, што забарона выклікана рыначнымі інтарэсамі, а не клопатамі пра здароўе спажыўцоў. Тым самым Мэйджар пацвердзіў словы старшыні камісіі па сельскай гаспадарцы Еўрасаюза аб тым, што брытанская ялавічына бяспечная для здароўя людзей, але забарона на яе патрэбна, каб пазбегнуць краху еўрапейскага рынку ялавічыны.

### ЧЫРВОНЫЯ СЦЯГІ ДЛЯ ВЕТЭРАНАЎ

Прэзідэнт Ельцын аддаў распараджэнне, каб падчас урачыстых мерапрыемстваў 9 Мая, прысвечаных перамозе ў другой сусветнай вайне, вывешваліся чырвоныя сцягі, падобныя да існаваўшых у савецкія часы. Новыя сцягі будуць адрозніваца толькі адсутнасцю сярпа і молата, аднак на іх будзе пяціканцовая зорка. Разам з некаторымі іншымі пастановамі ўзгаданая павінна дадаць Ельцыну папулярнасці сярод удзельнікаў вайны. Выступаючы ў Краснадары, прэзідэнт паабяцаў таксама павысіць пенсіі.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і Радыё 101,2 слухаў Сяргей ПРОТАС.***

*У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА*

## ПАРЛАМЕНТ МАЕ НАМЕР АБМЕРКАВАЦЬ У БЯГУЧЫМ ГОДЗЕ ЯШЧЭ 100 ЗАКОНАПРАЕКТАЎ

Арыенціровачны план падрыхтоўкі праектаў заканадаўчых актаў і іншых пытанняў, што падлягаюць разгляду беларускім парламентам у 1996 годзе, адобраны на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Раздзелы плана аб дзяржаўным будаўніцтве, прававым забеспячэнні эканамічнай рэформы, сацыяльным развіцці і культуры, правасуддзі і ахове парадку, рэгуляванні дзейнасці асобных галін народнай гаспадаркі ўключаюць звыш ста законапраектаў.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета прыняў пастанову «Аб плане разгляду пытанняў парадку дня першай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання на красавік-май 1996 года». Вызначаны тэрміны правядзення пленарных пасяджэнняў, колькасць і парадак абмеркавання законапраектаў, а таксама дні для работы дэпутатаў у выбарчых акругах і пастаянных камісіях Вярхоўнага Савета. Пасяджэнні сесіі намечана праводзіць 18,19, 25, 26 красавіка, 2, 3, 16, 17, 23, 24, 30 і 31 мая.

Унесены змяненні і дапаўненні ў Палажэнне аб Ганаровай грамаце Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, разгледжаны іншыя пытанні.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета — БЕЛТА.**

## ПРАЗ СУПРАЦОЎНІЦТВА — ДА МАРСКОЙ ДЗЯРЖАВЫ

Пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне транспарту падпісана паміж Міністэрствам транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь і адміністрацыяй Калінінградскай вобласці Расійскай Федэрацыі.

Гэты дакумент нарадзіўся і атрымаў пуцёўку ў жыццё на падставе пагаднення паміж урадамі Беларусі і Расіі «Аб прынцыпах супрацоўніцтва і ўмовах узаемаадносінаў у галіне транспарту» ад 20 ліпеня 1992 года. Бакі дамовіліся развіваць супрацоўніцтва ў сферы чыгуначнага, аўтамабільнага, марскога і рачнога транспарту і транспартнай інфраструктуры, абменьвацца інфармацыяй па арганізацыі двухбаковых транзітных перавозак на сваіх тэрыторыях. Мяркуецца сумеснае будаўніцтва новага порта і стварэнне беларускай суднаходнай кампаніі ў Калінінградскай вобласці.

Дасягнута таксама дамоўленасць па ўзаемнаму вызваленню ўладальнікаў і карыстальнікаў транспартных сродкаў ад уплаты збораў за іх праезд па аўтадарогах Беларусі і самай заходняй вобласці Расіі.

**Алег ПАДАЛЯНІН.**

## «МЫ, БЕЛАРУСЫ, З БРАТНЯЮ РУССЮ...»

Працэс інтэграцыі з Расіяй, што называецца, пайшоў. Як паведаміў інфармацыйна-аналітычны цэнтр Магілёўскага аблвыканкома, Прыдняпроўшчына стала адной з заснавальніц акцыянернага таварыства адкрытага тыпу «Смаленскі аптовы рынак». Гэта дасць магілёўчанам магчымасць гандляваць не толькі з блізкім суседам, але і з краінамі Балтыі, частка рэгіёнаў якой таксама далучылася да АТ.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**



***Сёння Вялічка — чырвонае яечка!
Будзь здаровы — як вада!
Будзь багаты — як зямля!
Будзь вясёлы — як вясна!***

Гэта прыпеўка часцей за іншыя гучала ў нядзельны дзень у мінскім парку імя Горкага. З раніцы да вечара на эстрадных пляцоўках і алеях парка спявалі і танцавалі не толькі самадзейныя артысты, але і самі адпачываючыя. Сем'ямі прыйшлі сюды мінчане, каб прыняць удзел у нацыянальным свяце з нагоды 200-годдзя Яна Чачота. Лепшыя фальклорныя калектывы Мінска, многіх гарадоў і вёсак з'ехаліся, каб паўдзельнічаць у конкурсе на лепшае валачобніцтва.

Міністэрства культуры Беларусі і Саюз фалькларыстаў рэспублікі, якія арганізавалі гэтае свята, запрасілі не толькі «зорак», але і маладых выканаўцаў народнай песні. У праграме свята быў вялікі кірмаш, гульні, выстаўкі, а таксама біццё і качанне велікодных яек.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**



# «Арбіта», «Адрэта», «Карэта»... Колькі цудоўных сартоў, а «другі хлеб» усё ж з гарчынкай

*Пачнём з сенсацыі: беларускія вучоныя ўсур'ёз узяліся... за каларадскага жука. У нашай рэспубліцы нікому не трэба доўга тлумачыць, наколькі гэта важна для эканомікі. Паласаты разбойнік штогод знішчае значную долю ўраджаю і прыносіць вяскоўцам нямала клопатаў. Не раскрываючы дачасна ў поўным сэнсе слова стратэгічных сакрэтаў, скажам толькі, што доследы вядуцца ў тым накірунку, каб зрабіць бульбу «нясмачнай» для шкодніка. І пры гэтым захаваць абсалютную бясшкоднасць яе для чалавека.*

*Калі ўлічыць, што за справу ўзяўся менавіта Беларускі навукова-даследчы інстытут бульбаводства, то можна спадзявацца на поспех.*

*Да паездкі ў Самахвалавічы падахвоціла вясна. Хлебаробу хутка ў поле, і захацелася даведацца, што ён пакладзе ў баразну. Намер гэты выспяваў з восені, калі перабіраў на бацькоўскім падворку бульбу з уласнага агарода, а яна ўжо тады, у верасні, была (ці паверыце?) прараслая. І мацнеў зімою, калі сваёй паменела, і гаспадыня пачала яе ашчаджаць, а магазінную даводзілася ледзь не напалову абразаць. То гнілая, то чорная, то нейкая парэпаная. Для мяне важна было разабрацца, што ў нас робіцца з сартамі і якія тут перспектывы.*

***З аглядальнікам «Звязды» сустрэўся дырэктар інстытута Аляксандр БАГДАНОЎСКІ.***



**— У сусветным генафондзе бульбы больш за 2000 узораў культурных сартоў, а таксама дзікіх і прымітыўных відаў. Калі гаварыць пра першыя, то які тут уклад інстытута? Каб адразу праясніць для чытача, «хто ёсць хто».**

— У інстытуце выведзена 59 сартоў. У тым ліку «беларускі ранні», «агеньчык», «лошыцкі», знакаміты «тэмп». Стварэнне сартоў markedly рознага гаспадарчага прызначэння, з высокімі спажывецкімі якасцямі, устойлівых да хвароб і шкоднікаў уваходзіць у нашы абавязкі.

**— Зараз, калі кароткае знаёмства адбылося, скажыце: напярэдадні сяўбы вы давалі нейкія рэкамендацыі калектыўным гаспадаркам? Я маю на ўвазе сарты, якія вы раілі (або не раілі) выкарыстоўваць сёлетняй вясной.**

— Мінсельгасхарч з улікам і нашых напрацовак падрыхтаваў да вясны рэкамендацыі па ўсіх культурах, у тым ліку і па бульбе. Яны калі яшчэ не апублікаваны ў «Белорусской ниве», то днямі будуць змешчаны. Каб не паўтарацца, бо гэта зойме шмат месца, скажу толькі, што асаблівы акцэнт зроблены на энергазберажэнне і зніжэнне затрат працы.

**— Тады зойдзем з другога боку праблемы. Як бы вы, Аляксандр Фёдаравіч, ацанілі сітуацыю з насеннем бульбы, якая складваецца на сённяшні дзень у рэспубліцы?**

— Як не зусім нармальную. У цэлым насеннем гаспадаркі забяспечаны, гэта так. Але ў агульным аб'ёме насеннага матэрыялу значная ўдзельная вага насення нізкіх рэпрадукцый. У калгасаў і саўгасаў проста няма сродкаў, каб набыць эліту. Летась (пад ураджай 95 года) гаспадаркі закупілі ўсяго 5 тысяч тон эліты. А трэба было мінімум 15 толькі для калгасаў і саўгасаў. Розніцу адчуваеце? Вось і атрымалася, што пераважалі так званыя масавыя рэпрадукцыі, а таксама 5-я і 6-я, якія даюць ураджай на 25—50 працэнтаў ніжэйшы.

**— Відаць, гаспадаркі сапраўды лічаць грошы.**

— Дык жа дрэнна лічаць. Колькі б ні каштавала эліта, набываць трэба ўсё ж яе. Разлікі паказваюць, што акупнасць затрачаных сродкаў ужо на наступны год складае больш за 300 працэнтаў. Калі дакладна — 337.

**— Я хацеў сказаць — «лічаць апошнія грошы».**

— Можа, і так. Тым не менш, на вёсцы няма іншых такіх вось эфектыўных крыніц, каб папраўіць фінансавае становішча. Вы ведаеце, што чалавецтва ў асноўным кормяць тры культуры — пшаніца, рыс і бульба? І ў Беларусі менавіта бульба найбольш рэнтабельная культура — у параўнанні з ільном, збожжавымі і нават цукровымі буракамі. Так што сапраўды трэба лічыць. Справа яшчэ і ў тым, што нашы спецыялісты пакуль слаба рэагуюць на жорсткія патрабаванні рынку. А ён усё роўна прымусіць іх арганізаваць не проста вытворчасць бульбы, а вытворчасць мэтавую, для канкрэтных тэхналогій перапрацоўкі, канкрэтнага спажыўца.

Возьмем характэрную сітуацыю. У рэспубліцы крухмал прыкладна ў два разы даражэйшы, чым у Еўропе. Парадокс! Справа ў дарагой сыравіне. У хібах тэхналогіі і крышку не тых сартах. Трэба вырошчваць сарты, якія ўтрымліваюць не менш як 18 працэнтаў крухмалу. Напрыклад, сорт «сінтэз» мае больш за 26.

**— Такім чынам, мы зноў падышлі да таго, з чаго пачыналі — да сартоў. Якая тут зараз палітыка?**

— А палітыка такая, каб кожны новы сорт вызначаўся высокім каэфіцыентам выкарыстання ўрадлівасці глебы і высокай акупнасцю мінеральных угнаенняў. Высокай аддачай ад усяго комплексу глебава-кліматычных умоў.

**— І ў гэтым сэнсе ўжо сёння ёсць «рэкардсмены»?**

— Найбольшая аддача ад «явара». Ён раяніраваны і спадабаўся вытворцам за добрую ўраджайнасць, хуткія тэмпы накаплення масы клубняў і цудоўную лёжкасць. Тэмпы накаплення масы клубняў маюць прынцыповае значэнне, бо важна, каб ураджай паспеў у асноўным сфарміравацца ў пачатку вегетацыі, у добрых пагодных умовах або да з'яўлення фітафторы. І калі, скажам, ад фітафторы не засцерагліся, то можна спакойна здымаць бульбоўнік. Гэта ўраджаю не пашкодзіць, а клубні ад хваробы абароніць.

У гэтым накірунку, побач з павышэннем комплекснай устойлівасці да хвароб, зараз і вядзецца работа. У апошні час раяніравана цэлая гама сартоў беларускай і замежнай селекцыі, якія даюць магчымасць поўнасцю задаволіць патрэбы рэспублікі.

**— Інтэрв'ю з вамі, я думаю, будуць чытаць не толькі аграномы гаспадарак, але і дачнікі, гаспадары прысядзібных участкаў. Чым вы іх пацешыце? Пачніце, калі ласка, з сартоў ранняй групы.**

— Тады — з «аксаміта». Праз 45 дзён пасля ўсходаў дае ўраджай 150—180 цэнтнераў з гектара. Валодае добрымі смакавымі якасцямі. Адзінае, што клубні ўспрымальныя да фітафтарозу. Праўда, сорт рана накоплівае масу клубняў, выратаванне таксама ў скошванні бульбоўніку. Ураджай будзе дастаткова вялікі.

Пра «явар» мы гаварылі. Раяніраваны таксама сарты нямецкай селекцыі «адрэта», «карэта», галандскаі «аноста» (апошні крыху ўступае па ўраджайнасці нашым «явару» і «аксаміту»).

У апошнія гады пашырэнне атрымаў галандскі сорт «сантэ», які вызначаецца як нематодаўстойлівасцю, так і добрай ураджайнасцю. Праўда, мае і «мінусы». Смакавыя якасці даволі сярэднія, і потым, у другой палове вегетацыі, калі стаіць гарачае надвор'е, можа прарастаць прама на градзе, што, дарэчы, і здарылася персанальна ў вас. Хутчэй за ўсё гэта была «сантэ». Перыяд спакою (захоўвання) — 60 дзён (у «явара» больш за 100). Хаця сорт увогуле нядрэнны. Проста ўраджай трэба захоўваць у належных умовах пры тэмпературы 4—6 градусаў цяпла. Вядома, умоў для гэтага няма ні ў гаспадарках, ні ў прыватніка. Але да гэтага трэба імкнуцца.

**— А я лічыў, што лепш, калі тэмпература захоўвання будзе крыху ніжэйшай.**

— Нават пры 1-2 градусах цяпла потым складана рыхтаваць насенны матэрыял да сяўбы. Ён будзе доўга «прыходзіць у сябе», і ўсходы атрымаюцца нераўнамернымі, зніжэнне ўраджаю можна гарантаваць на 15—20 працэнтаў.

Але вернемся да параўнальнай характарыстыкі сартоў. З сярэдняспелых раней шырокае распаўсюджанне меў «агеньчык». Зараз з'явілася некалькі навінак — «альтаір», «расінка», «скарб» — усе яны нематодаўстойлівыя. Усе вельмі прыдатныя для прысядзібнага бульбаводства, дзе год за годам бульбу садзяць па бульбе, няма севазвароту і накопліваецца нематода. У сярэдняпозняй і позняй групе таксама ёсць высокаўраджайныя і смачныя сарты. Вялікую папулярнасць заваявалі «ласунак» і «тэмп». Па сутнасці, самыя смачныя сарты. Цудоўныя смакавыя якасці ў «арбіты» і «беларускага 3». Гэта група фарміруе і прадукцыю (сыравіну) для прамысловай перапрацоўкі. У прыватнасці, вызначаецца высокім утрыманнем крухмалу і можа, як і «сінтэз», забяспечыць таннай сыравінай крухмальныя заводы.

**— Яшчэ адзін бок праблемы, Аляксандр Фёдаравіч. Па ацэнках спецыялістаў, у краінах СНД ад розных хвароб (вірусных, грыбковых і г. д.) губляецца ад 20 да 50—60 працэнтаў ураджаю бульбы. І многае залежыць ад зыходнага насеннага матэрыялу. Што робіцца, каб захаваць ледзь не палову ўраджаю? Інакш кажучы, для атрымання ўстойлівых да хвароб сартоў.**

— Найбольш распаўсюджаныя патагены ва ўмовах рэспублікі — гэта нематода, фітафтароз, «чорная ножка», вірусы. Пасля многіх гадоў работы мы дабіліся таго, што зараз больш за 70 працэнтаў усяго зыходнага селекцыйнага матэрыялу нематодаўстойлівыя. Шукаем управу на фітафтароз. Можна сказаць, што такія сарты, як «выток», «сінтэз» і нават «скарб», практычна не баяцца гэтай хваробы. Складанасць заключаецца ў тым, што сённяшні фітафтароз іншы, чым быў некалькі гадоў назад. Яшчэ ў 1979 годзе структура папуляцыі фітафтарозу складалася з 4 генаў вірулентнасці, і магчымасці ўзбуджальніка былі даволі абмежаваныя. Летась налічвалася 11 генаў вірулентнасці. Паспрабуйце іх спыніць.

**— Тым не менш спрабуеце?**

— Тым не менш спрабуем. Праўда, «дапамагаюць» самі вяскоўцы (і не толькі яны): наглядаецца бессістэмны завоз нераяніраваных сартоў з Украіны, іншых краін СНД, Польшчы, нават далёкага замежжа. У выніку ў рэспубліцы раяніраваны 22 сарты, а вырошчваецца больш за 100.

Аздараўленне насеннага матэрыялу ў першую чаргу накіравана на вызваленне ад вируснай і іншых інфекцый. Раней рабілі гэта пры дапамозе тэрматэрапіі, зараз шырэй выкарыстоўваецца хіміятэрапія. Працэс працяглы і няпросты. Вычляняем з вярхушкі парастка, дзе чыста, маленькі кавалачак тканкі — усяго некалькі клетак. З іх вырошчваем прабіркавыя расліны. І шляхам чаранкавання вядзецца далейшае размнажэнне, старанны адбор. Усё гэта займае не адзін год.

**— Мне хацелася б абмеркаваць з вамі і праблему лёжкасці бульбы. Вы лічыце, што нітраты тут ні пры чым, што гэта вынік як паражэння клубняў хваробамі, так і механічных пашкоджанняў. Калі разглядаць апошні аспект, то варта весці размову пра здольнасць бульбы альбо вытрымліваць механічную апрацоўку, альбо не?**

— Нашы дачнікі вельмі паважаюць «адрэту», і ёсць за што. Гэта «ручны» сорт, ён для дач і прысядзібных участкаў. Але абсалютна не для вялікіх палёў, бо баіцца машыннай апрацоўкі. А паколькі ў рэспубліцы пад бульбай заняты значныя плошчы, то селекцыя накіравана яшчэ і на тое, каб сарты былі максімальна прыстасаванымі да машыннай пасадкі і ўборкі, пагрузкі, транспарціроўкі, разгрузкі. Нашы сарты якраз пераўзыходзяць замежныя па ўстойлівасці да механічных пашкоджанняў і працягласці фізіялагічнага спакою клубняў. Гэта не значыць, што мы ўжо ўсяго дасягнулі. Але мы хацелі б, каб у гаспадарках наўмысна не выпрабоўвалі і ўраджай, і насенны матэрыял на механічную трываласць. Тут многае залежыць ад захоўвання тэхналогіі і звычайнай акуратнасці.

**— Па вашых падліках, колькі рэспубліцы патрэбна эліты?**

— 50 тысяч тон. Гэта з улікам прысядзібных участкаў і таго, што памеры бульбянога поля растуць. Аб'ём значны, але тым не менш рэальны.

**— 50 тысяч тон і 5 тысяч тон, якія летась закупілі гаспадаркі...**

— Гэта ўжо крышку іншы бок праблемы. Дзяржаўная сістэма насенняводства зможа даць 50 тысяч тон. Іншая справа, што ўжо зараз трэба ўсім думаць, як так зрабіць, каб калгасы іх набылі. У тым ліку думаць і самім гаспадаркам. Дарэчы, не толькі пра сябе, але і пра прыватніка.

**— Інстытут, наогул навукова-вытворчае аб'яднанне «Бульба» таксама маглі б дапамагчы гаспадарам прысядзібных участкаў і дачнікам (у адным Мінску іх тысячы), адкрыўшы ў буйных гарадах свае магазіны або кіёскі па продажы раяніраваных сартоў...**

— Гэта, Уладзімір Паўлавіч, называецца «сыпаць соль на рану». Мы два гады б'ёмся над тым, каб адчыніць у Мінску свой магазінчык, і ніяк не можам вырашыць праблему. Гарадскія ўлады быццам і разумеюць патрэбнасць такой паслугі, але справа ўпіраецца то ў адсутнасць памяшкання, то ў арэндную плату, то яшчэ ў нешта. Так што мы са свайго боку гатовы хоць зараз. Тым больш што на двары — вясна. І пэўныя крокі робяцца. Хоць у невялікіх аб'ёмах, але і інстытут, і нашы абласныя навукова-вытворчыя аб'яднанні дапамагаюць насельніцтву з насеннем.

А ўвогуле, калі гаварыць па вялікаму рахунку, у кожным раённым цэнтры павінен быць фірменны магазін спецыялізаванай насеннай гаспадаркі, дзе можна набыць здаровы, правераны насенны матэрыял. Тады «другі хлеб» будзе без «гарчынкі».

**Цікавіўся Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

**Ад рэдакцыі.** Мы паспрабавалі выступіць у ролі пасрэдніка паміж Мінскім гарвыканкомам і інстытутам наконт адкрыцця спецыялізаванага фірменнага магазіна. Калі што атрымаецца — паведамім чытачам.

НАТУРА

# Вяскова-веснавы эцюд з адценнямі рэалізму

**У НАС ДОМА ТАКСАМА ПАВОДКА.** Наша маленькая рэчка без назвы, якую летам лёгка пераступіць, разлілася і нават крыху падтапіла старыя вербы і агароды. Вады, праўда, у той паводцы — па калені парасяці не будзе. Што ж, малая рэчка — малая паводка.

Прыляцелі ўжо буслы. Адзін з іх абавязкова сядзіць на гняздзе. Мусіць, спецыяльна, каб пэўная колькасць вяскоўцаў убачыла першым іменна яго: не ўсім жа ўвесь год лётаць.

У двары — звычайная веснавая непрыбранасць. Заўсёды дзіўлюся: нашто прыбіраць восенню, выграбаць лісце, выдзіраць дзеркачом пажухлую ўжо траву, калі вясной зноў хаос? Адказ па-вясковаму мудры і просты: не прыбярэш — абгавораць. Самая страшная на вёсцы пагроза.

Колькі жыву ў горадзе, ніяк не магу даўмецца, чым жа пахне вясна ў гэтай замураванай у асфальт і бетон прасторы. У вёсцы ўсё значна прасцей. Калі ступіш на ганак і адчуеш ледзь-ледзь улоўны пах нагрэтых на сонцы даўно не фарбаваных, паточаных шашалем дошак прызбы ды яшчэ выдзеўбанай вадой з-пад капяжу сырой цэментаванай дарожкі і цёплай кошчынай поўсці (гэта дурнаватае зеленавокае стварэнне любіць ляжаць на падаконніку ў верандзе) і яшчэ зляжалага попелу, які ўсю зіму высыпаецца прама каля хаты, — дык вось, калі ступіш на ганак і адчуеш нават не нюхам, а хутчэй усёй істотай сваёй гэты пах — значыць, вясна ўжо тут. Паўнапраўна і надоўга.

Суседка, як і кожны красавік, выносіць наверх бульбу: яе занадта нізкі склеп затапляе нават тады, калі снегу зусім няма. Як заўжды адна, яна працуе ў зацятым маўчанні, цягае мокрыя кашы, дзяўбе равочкі для сцёку вады. У людзей, што праходзяць па вуліцы, няма жадання ёй дапамагаць. Гэта суровая старая не выклікае ў іх жалю ці спагады. Яна — пустэльніца сярод людзей. Гэта яе жыццёвае крэда. Восемдзесят з нечым ужо, а ў вачах — усё той жа ганарлівы бляск, усё тая ж не па ўзросту прамая спіна ў нязменным выцвілым мужчынскім пінжаку. І да людзей — з адчужанасцю і нейкай нават пагардай. Пустэльніцтва і зацятасць дапамагаюць ёй жыць. І выцягваць са склепа кожны год цяжкімі мокрымі кашамі ўсю бульбу, што засталася. І садзіць гэту бульбу, і даглядаць, і капаць. І гадаваць свінчо, і калоць дровы. І кожную раніцу прачынацца ў паўцёмнай хаце, гатаваць сабе снеданне ў печы, тупаць яшчэ адзін доўгі дзень...

У другой суседкі мясцовыя п'яніцы зламалі плот. Бабуля зараз у горадзе, не бачыла гэтага акта вандалізму, які ўчынілі над яе агароджай, не такой яшчэ і дрэннай. Але цяпер непафарбаваныя замшэлыя штакеціны, набрынялыя веснавой вадой, аказаліся слабымі, не вытрымалі палкіх абдымкаў нейкага самотнага, аж да п'яных слёз, мясцовага халасцяка. Цяпер плот трэба рамантаваць. Бабулі прыйдзецца ставіць пляшку. Не выключана, таму, хто гэты плот зламаў.

Шпакам, якім сёлета стукнула ў галаву прыляцець іменна ў нашу вёску, пашанцавала: у іх новыя дамы. У сталярні, што належыць аднаму сталічнаму прадпрымальніку з мясцовымі каранямі, вясковыя хлопцы зрабілі з тузін новых шпакоўняў. Пасля ездзілі на трактары-пагрузчыку па вуліцы і замянялі самыя спарахнелыя на новыя. Абыходзіліся без лесвіцы: адзін залазіў у коўш, які матляўся туды-сюды, пагрузчык падымаў яго на патрэбную вышыню, а далей — справа спрытных рук. Відовішча было што трэба. Цяпер шпакі пад пільнай увагай вяскоўцаў: паселяцца ў новых дамках ці не?

У лесе снег яшчэ не сышоў. Але ля многіх бяроз ужо пападвязваныя цэлафанавыя мяшкі, у якія па бліскучых стальных равочках сцякае сок. Запаслівыя гаспадары збіраюць яго, каб, зліўшы ў вываркі і накідаўшы сухіх хлебных скарынак, паставіць яго кіснуць да лета. А летам лепшы пачастунак любому важнаму госцю — вялікі кубак кіслага халоднага бярозавіку, вынесенага з кладоўкі без падлогі і вокнаў — натуральнага вясковага халадзільніка... Раней ля бяроз у лесе стаялі звычайна трохлітровыя слоікі. Цяпер слоік — рэч дарагая, на яго можа пакваліцца нават і зусім не злодзей. Ды што казаць пра слоікі ў лесе, калі гаспадыні адна аднай перадаюць пагрозлівыя чуткі: у суседняй вёсцы ў людзей ноччу сталі прападаць вёдры ад студняў...

Ля магазіна — вялізная лужына. Гандлёвы цэнтр вёскі адрэзаны ёй ад вуліцы. Па хлеб трэба ісці выключна ў гумовых ботах. Аўтобус, што прыходзіць з горада, разварочваецца таксама тут. Любімы «жарт» вадзіцеля — спыніць машыну так, каб дзверы былі якраз насупраць гэтай лужыны. З нейкім невытлумачальным пачуццём задавальнення назірае ён, як гарадскія дзеці вясковых бацькоў лезуць праз брудную ваду з цяжкімі ношамі да запаветных прыступак. Каб не запэцкаць модны абутак, ідуць на дыбачках. Цяжкія сумкі не даюць магчымасці трымаць раўнавагу... Відовішча атрымліваецца — якраз для пацехі чалавека, што ўсе выхадныя вымушаны круціць руль.

Адгулялі ўжо абодва Вялікадні. Праўда, святкуюць у нас у асноўным каталіцкі. У гэты дзень толькі і чуваць, як вітаюць адзін аднаго мае землякі: «Хрыстус з мяртвых стаў!» А вечарам спяваюць пад вокнамі «Васолы». Таксама па-польску. Як сапраўдныя «гжэчныя полякі». Праўда, з мясцовым, цэнтральнабеларускім акцэнтам. Зрэшты, праваслаўнымі святамі мае землякі-католікі таксама не грэбуюць. Едучы з Вялікадня ў сталіцу, на шляху назірала камічную, але традыцыйную ў нашых мясцінах карціну. Ля дарогі, на павароце — глыбакаваты такі равок, напоўнены набрынялай снежнай кашай, якую ў нас вобразна называюць «хляпська». Сярод гэтай «хляпські» неяк бокам, няўклюдна і даволі-такі глыбока — калёс не відаць — стаіць воз-скрыня (звычайна на такіх возяць гной). Воз нечым нагадвае затанулы карабель. Яго «капітан» — мужык у ватоўцы, без шапкі, мірна спіць у саломе, накіданай у скрыню. Конь акуратна выпражаны і за аброць прывязаны да воза, сумна стаіць па калені ў «хляпсьцы»... Ад'ехаліся метраў сто -- новы сюжэт для натураліста. Па дарозе павольна валачэцца яшчэ адзін воз-скрыня. Конь ідзе куды вочы глядзяць. Гаспадар яшчэ неяк сядзіць, але лейцы цягнуцца па зямлі, а ён дзяўбе носам, матляючы кудлатай непакрытай галавой... Равок на павароце нядоўга будзе чакаць чарговую ахвяру... Праязджаем яшчэ колькі -- на дарозе на адлегласці метраў дзесяць адна ад адной -- дзве шапкі. Цікава, каторая чыя?

Прыехаў сваяк, паскардзіўся: нехта яго абакраў. Дакладней, не яго, а саўгас. Не, усё ж яго. І саўгас таксама. У сваяка скончылася сена. На пашу кароў па снезе не пагоніш. Пайшоў да кіраўніцтва, папрасіў дазволу ўзяць сена з пазамінулагодняга саўгаснага стога. Дазвол атрымаў, цэлы дзень выскубаў з парыжэлага старога сена дзе зелянейшае. Наскуб добры вазок. Пакуль у вёсцы запрагаў каня, пакуль ехаў да стога, сена як карова языком злізала. Нехта прыехаў красці, а тут — гатовая зялёная капа. Пашанцавала чалавеку, што і казаць.

На чорных парэчках — зялёныя набрынялыя пупышкі. Падсыхае чорная бліскучая зямля, становіцца ржава-рудой, глянеш — і цёпла становіцца, што хутка па ёй — басанож. А на ганку ўжо пахне і прызбай, і цёплай кошчынай поўсцю, і сырым цэментам, і вадой з-пад капяжу...

Што ж, факт трэба канстатаваць: у мяне дома, як і на ўсім паўночным паўшар'і нашай блакітнай планеты, наступіла вясна... У нас таксама паводка, хай сабе і выключна вузкага мясцовага значэння... Карацей, жыццё працягваецца.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

# РЭАЛІІ НАД ПАЛІТЫЧНЫМІ АНАМАЛІЯМІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

З другога — узнікала крытычная хваля, калі пераважная большасць насельніцтва не падтрымлівала адзіным фронтам чыюсьці, здавалася б, самую дасканалую ідэю. Хоць сакрэт вядомы: ідэя павінна быць узвышанай і дастойнай народа, які сабраўся ўступіць у XXI стагоддзе. Быў і трэці бок палітыкаў, які ледзь не абвінавачваў недальнабачны беларускі народ у тым, што ён ухіляецца ад свайго шчасця і не ідзе на мітынгі і забастоўкі. Чацвёрты — станавіўся ў позу, што ў бліжэйшых краінах рэформы перавярнулі свет, а беларусы да гэтага, мякка кажучы, адносяцца спакойна. На тое, што гэта праяўленне гістарычнай мудрасці беларускага народа, адказ на пытанне, ці не вельмі часта мы ўмешваемся ў глабальныя ўзрушэнні, нікога не цікавіць.

Наступныя палітычныя абазначэнні сцвярджаюць ідэю старую, але, на іх думку, правільную: узбагачайцеся! Але вось народ неяк з недаверам ставіцца да гэтай заманлівай ісціны. Узбагачэнне мізэрнай часткі прывяло да рэзкага зніжэння ўзроўню жыцця пераважнай большасці. Якая тут вера?

Можна і далей аналізаваць фактары разбалансавання беларускай палітычнай свядомасці, але больш важна адзначыць, што час спрошчаных падыходаў, ці паспешлівых характарыстык палітычнага барометра грамадства ўжо мінуў.

Многія палітычныя партыі, штучна створаныя паліталагічныя інстытуты, акадэміі, стратэгічныя цэнтры, якія імкнуліся захапіць розныя сацыяльныя слаі ідэалагічным лідэрствам, паступова адсталі ад агульнага эвалюцыйнага працэсу. Прычына ў тым, што яны ставілі перад сабой вузкапраграміраваныя мэты і задачы.

Гэта не прыніжэнне ролі часовых палітычных пабудоў. Яны — накапляльнікі матэрыялаў для характарыстыкі цяперашніх грамадскіх працэсаў ў аддаленай будучыні. Такая іх пазітыўная роля.

У той жа час неабходна адзначыць, што большасць такіх утварэнняў у сваім імкненні засвяціць свежай тэарэтычнай думкай з верхавіны нашага часу так і засталіся ля яго падножжа. Не змаглі яны ўліцца ў агульнанацыянальны працэс здабывання новых разумовых каштоўнасцей, якія стукаюцца ў дзверы нашай дзяржавы.

Паралельнае ручайковае цячэнне ператварае іх з прадказальнікаў фактычна ў назіральнікаў з боку. Замест навукова-тэарэтычнага аналізу яны прапануюць грамадству схематычную яго ілюстрацыю. У такім разе ручаёк можа перасохнуць.

Для канстатацыі факта скажам, што намаганні палітолагаў пераходнага перыяду не змаглі вывесці іх на паглыблены аналіз агульнага палітычнага працэсу, зразумець яго супярэчнасці, пазітыўныя і негатыўныя бакі, а тым больш стаць на аб'ектыўны шлях вырашэння сацыяльна-эканамічных задач па-новаму, з улікам сучасных дасягненняў філасофскай і эканамічнай думкі.

Арандаваныя аналітыкі-адзіночкі імкнуцца сфарміраваць наднацыянальны і наддзяржаўны пласт палітычнай інфармацыі, у якім нівеліраваны патрыятычныя імкненні, стала празрыстай і саркастычнай шырма народных інтарэсаў.

Па форме і зместу такі націск адпавядае пастаяннай масіраванай бамбардзіроўцы. Знішчаецца ўсё жывое. Дзяржаўныя служачыя — злачынцы, у народзе нічога святога, беларускі шлях — у бяздонне: толькі я ўзвышаны святы, што ўзнёсся над змрокам быцця і амаль гатовы для кананізацыі. Дзіўная пазіцыя самаадрачэння ад рэчаіснасці. Такі падыход да нашага складанага жыцця наносіць шкоду і грамадству, і самому «прадказальніку». Той, хто не бачыць святла, — сляпы. Але відушчы, які адмаўляе святло, — зламыснік! Ці дастойна гэта сыноў Беларусі?

Сярод палітыкаў новай крытычнай хвалі паявілася многа людзей, якія не ўбачылі класічнага выйсця з узнікшай сітуацыі — узвысіцца над уласным «я» і весці паленіку для ўдасканалення палітычнага працэсу і напаўнення яго новымі і перспектыўнымі ідэямі.

Аднак на практыцы гэта адкінута — як сістэма, што выйшла з выкарыстання. У палітычных канструкцыях згубілася свежая думка і застаўся толькі касцяк са з'едлівых рэпрыз, зневажальных намёкаў і надуманых параўнанняў і паралеляў. Ні ідэй, ні філасофіі новага часу.

У выніку такой штучнай палітычнай напружанасці аказалася разбалансаванай масавая свядомасць. Яна як бы насільна аддзяляецца ад палітычнага курсу дзяржаў, усіх галін улады. Натуральна, каб пераадолець гэты палітычны дысбаланс, неабходна стварыць устойлівы паток інфармацыі ад дзяржаўных структур на ўсё насельніцтва, з разлікам на кожнага чалавека.

Магутную аснову палітычнага працэсу ствараюць базавыя вызначальныя развіцця дзяржавы: беларускі народ будуе дэмакратычную, суверэнную, самастойную, канстытуцыйную дзяржаву. Інтэлектуальная дзейнасць палітыкаў стымулюецца гэтымі канкрэтнымі агульнанароднымі каштоўнасцямі. Імі вызначаецца і галоўны змест аналітычнай прадукцыі, канстатуюцца адказы на глабальныя пытанні: як стварыць дасканалы дэмакратычны лад для дасягнення высокага ўзроўню дабрабыту кожнага грамадзяніна ў дзяржаве.

Гэта зададзеныя параметры аналітычнага працэсу палітычных дзеянняў. А вось формула рашэнняў і расшыфроўкі гэтых праблем можа развівацца ва ўсе бакі. І чым багацейшым будзе спектр думак, тым больш ясным будзе рух наперад.

Закон адмаўлення, як вядома, прадугледжвае дыялектычнае адзінства прадаўжэння. Многія ж беларускія палітыкі проста уяўляюць усёй сваёй сутнасцю спрошчаную часціцу «не».

Гэта своеасаблівы палітзастой. Нетрывалы фрагмент ультыматуму: «Я адмаўляю!» Такія палітычныя канструкцыі ўжо застаюцца за гарызонтам.

Магутны палітычны паток, пакідаючы далёка ззаду тых, хто сумняваецца, заблудзіўся і нядобразычліўцаў, разышоўся па ўсёй рэспубліцы і далёка за яе межамі. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет, Кабінет Міністраў прапанавалі беларускаму народу гістарычны выбар — сацыяльную мадэль рэгулюемай эканомікі, падмацаванай вельмі магутным рычагом аб'яднання з Расіяй на ўзаемавыгадных умовах двух раўнапраўных народаў і самастойных дзяржаў.

Гэта, безумоўна, пераломны момант у палітычным і эканамічным жыцці народа. І сярод іншых каштоўнасцей неабходна выдзеліць адну з галоўных: пачынаецца перыяд палітычнага рэнесанса ў нашай рэспубліцы. Хто яго не ўбачыць і не ўсвядоміць, не можа разлічваць на разуменне патомкамі.

Час патрабуе аб'яднання намаганняў вучоных, палітыкаў, дзяржаўных дзеячаў любых грамадскіх арыентацый. У іх агульнай творчасці і практыцы дзеянняў палітычныя рэаліі павінны ўзяць верх над анамаліямі пераходнага перыяду. Інтэлект нацыі — гэта грамадскі здабытак і ён павінен ужывацца толькі на карысць народа.

Найбольш рэалістычныя вучоныя і буйныя палітыкі сучаснасці прыйшлі да няўхільнага доказу, што новае стагоддзе і тысячагоддзе азнамянуюцца ўступленнем чалавецтва ў наасферу, дзе розум, чалавек, асоба стануць не дэкларыраванымі, а рэальнымі і галоўнымі каштоўнасцямі. Настане такі лад сусветнай супольнасці, дзе раўнапраўе будзе галоўным законам для ўсіх народаў, а дабрабыт чалавека, чысціня яго душы стануць агульным гімнам і адначасова велічнай асноўнай малітвай.

Падзеі, якія адбываюцца ў нашай рэспубліцы і ў свеце, указваюць на тое, што новы век для нашай беларускай дзяржавы пачынаецца ўжо сёння. Рэспубліка Беларусь выходзіць на сусветны ўзровень з невычэрпным запасам інтэлектуальных каштоўнасцей. Для далёкага палёту птушцы патрэбны моцныя крылы.

**Алег СЛУКА,**
**памочнік Прэзідэнта**
**Рэспублікі Беларусь.**

*ЖЫЦЦЁ ПАРТЫЙ*

# БЕЛАРУСКІЯ «СОКАЛЫ ЖЫРЫНОЎСКАГА» РАСПРАЎЛЯЮЦЬ КРЫЛЫ?

Красавік становіцца надзвычай багатым месяцам на ўсякага роду новаўтварэнні на тэрыторыі СНД, і ў прыватнасці ў Расіі і Беларусі. Не паспелі кіраўнікі суседніх краін падпісаць у Маскве дагавор аб утварэнні Супольніцтва, як па іх слядах пайшлі іншыя палітыкі, праўда, больш нізкага рангу.

11 красавіка Мінск наведала група «сокалаў Жырыноўскага» з Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі на чале з намеснікам яе старшыні, дэпутатам Дзярждумы Сяргеем Абельцавым. Прыбыла дэлегацыя ў госці да сваіх калег з Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі з мэтай заключэння пагаднення аб супрацоўніцтве. Урачыстае падпісанне дагавора адбылося не абы- дзе, а ў Нацыянальным інфармацыйна-культурным цэнтры. Падпісаны дакумент уяўляе сабой даволі цікавы і неардынарны набор думак і задум, таму не магу не пазнаёміць з некаторымі з іх нашых чытачоў.

Па-першае, беларускія і расійскія ліберал-дэмакраты вырашылі «сумесна вызначаць стратэгію і тактыку дзеянняў па забеспячэнню прыходу да ўлады ліберальна-дэмакратычных сіл», з мэтай чаго стварылі Вышэйшы каардынацыйны савет, штаб-кватэра якога будзе знаходзіцца ў Мінску. У яго састаў увойдуць члены Вышэйшых саветаў ЛДПР і ЛДПБ, што дае падставы прагназіраваць больш частыя ваяжы ў сталіцу Беларусі «сокалаў» з Расіі. Па-другое, адной з першачарговых задач на бліжэйшы час беларускія і расійскія паслядоўнікі Уладзіміра Вольфавіча вызначылі арганізацыю роднасных партый у іншых рэспубліках СНД, і ў першую чаргу на Украіне. Гэта што датычыцца палітычнага супрацоўніцтва. З ідэалагічнага боку ЛДПР і ЛДПБ плануюць прыйсці да адзінай праграмы, да стварэння адзінай газеты і сумеснага выпуску іншай літаратуры. Акрамя таго, прадугледжана распрацаваць і ажыццявіць «план падрыхтоўкі партыйных кадраў сярэдняга і вышэйшага звяна».

Вядома, гэтыя планы патрабуюць ад ліберал-дэмакратаў сур'ёзных фінансавых выдаткаў, таму і эканамічны бок не пакінуты па-за ўвагай. Мяркуецца, што будзе створаны адзіны фінанасава-прамысловы холдынг, які будзе ўключаць адзіны банк, фінансавыя і страхавыя кампаніі, а таксама сістэму фірмаў і прадпрыемстваў, якія будуць падтрымліваць дзейнасць партый. Мяркуецца зліццё службаў бяспекі абедзвюх палітычных арганізацый.

Наўрад ці трэба ўспрымаць гэтую падзею як элемент перадвыбарнай кампаніі У. Жырыноўскага. Тым больш калі ўлічыць, што падпісанне дагавора асабліва не афішыравалася. Хутчэй за ўсё гэта сведчыць аб тым, што Ліберальна-дэмакратычная партыя Беларусі, якую ўзначальвае небезвядомы Сяргей Гайдукевіч, завяршыла этап станаўлення, закулісных перагрупоўак і выходзіць з падполля. Як вядома, да гэтага часу беларускіх ліберал-дэмакратаў шырокія масы ўсур'ёз не ўспрымалі, як некалі не ўспрымалі і расійскіх у Расіі, але вынікі выбараў у Дзярждуму, як апошнія, так і перадапошнія, яскрава прадэманстравалі, як трэба заваёўваць электарат. Магчыма, расійскі сцэнарый будзе разыграны і на Беларусі пры падтрымцы ідэолагаў з Масквы.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*Аляксей ГАРОХАЎ:*

# «ЁСЦЬ ЯШЧЭ І САКРЭТ, ЯК УТАІЦЬ ДЗЯРЖАЎНЫ САКРЭТ...»

**У канцы 1994 года Вярхоўны Савет рэспублікі прыняў Закон «Аб дзяржаўных сакрэтах». З просьбай пракаменціраваць, што гэта дало нашаму грамадству і як «працуе» цяпер закон, рэдакцыя газеты «Звязда» звярнулася да аднаго з яго распрацоўшчыкаў, кандыдата філасофскіх навук, дацэнта Аляксея ГАРОХАВА.**

**— Аляксей Сяргеевіч, раскажыце, калі ласка, як зараз ідуць справы па рэалізацыі гэтага закона? А яшчэ хацелася б ведаць, якія пазітыўныя зрухі тут адбыліся?**

— Ох і падкінулі вы мне пытанне. Разумееце, у работнікаў нашай службы, і ў мяне асабіста, ёсць яшчэ своеасаблівы сакрэт, як утаіць дзяржаўны сакрэт. Але давайце пяройдзем да канкрэтнай размовы.

Перш чым адказаць на ваша пытанне, хачу адразу агаварыцца, што мае меркаванні нельга расцэньваць як афіцыйную пазіцыю, думку, высновы і ацэнкі канкрэтнага дзяржаўнага органа, арганізацыі ці ўстановы.

**— Паслухайце, а чаму адразу так катэгарычна?**

— А таму, што вы паставілі пытанне перш за ўсё аб нарматворчай дзейнасці, неабходнай для таго, каб закон працаваў. Так, сякія-такія зрухі назіраюцца. Напрыклад, рыхтуецца Пералік звестак, якія з'яўляюцца дзяржаўнай тайнай Рэспублікі Беларусь, актыўна распрацоўваюцца ведамасныя спісы ахоўных звестак, фарміруецца пералік звестак, якія не падлягаюць апублікаванню ў сродках масавай інфармацыі. У чарнавым варыянце складзены праект, бадай, асноўнага рабоча- нарматыўнага дакумента для карыстальнікаў (юрыдычных і фізічных асоб) дзяржаўных сакрэтаў — Інструкцыі па забеспячэнню рэжыму сакрэтнасці (назва пакуль дастаткова ўмоўная, таму што ёсць розныя меркаванні на гэты конт).

**— Прабачце, але вы аб усіх падзаконных актах гаворыце: «рыхтуецца, складаецца, распрацоўваецца», і не назвалі хоць бы адзін важны дакумент, які ўжо дзейнічае. Няўжо для гэтага не хапіла цэлага года? У чым вы бачыце прычыны такіх затрымак? Бо, калі меркаваць па тым, што вы сказалі, Закон не «працуе»?**

— Так. Закон пакуль што па сутнасці «мёртвы», калі ён не падмацаваны дастаткова развітой сістэмай нарматыўных актаў, якія забяспечваюць яго дзеянне. Прычын жа тут шмат, і асноўнымі з іх, як я мяркую, з'яўляюцца такія. Па-першае, да сённяшняга дня не пераадолены нігілізм ці легкаважныя адносіны да таго, што суверэнная Беларусь можа і павінна мець уласныя сакрэты, як і да таго, што валоданне і правільнае распараджэнне дзяржаўнымі сакрэтамі здольна прынесці краіне палітычныя, эканамічныя, навукова-тэхнічныя і іншыя выгады, садзейнічаць забеспячэнню яе нацыянальнай небяспекі і г. д. Прычым такое характэрна, на жаль, і для дзяржаўных уладных структур. Каб гэтае сцвярджэнне не выглядала галаслоўным, прывяду даволі наглядны прыклад. Пры рэарганізацыі апарату ўрада было ліквідавана адпаведнае падраздзяленне, якое функцыянавала ў былым Савеце Міністраў. Цяпер у Кабінеце Міністраў пытаннямі рэжыму, захавання дзяржаўных сакрэтаў, наколькі мне вядома, непасрэдна займаецца толькі адзін тэхнічны работнік-спецыяліст.

**— Але можа быць гэтага і дастаткова? Тым больш, што сфера звестак, якія адносяцца да дзяржаўных сакрэтаў, цяпер значна звужана?**

— Зразумейце мяне правільна: у любым выпадку адзін спецыяліст у апараце ўрада з гэтым не справіцца. Асабліва з улікам таго, што мы ў гэтай галіне, па сутнасці, праходзім стадыю станаўлення. Вельмі неабходна тут больш моцнае падраздзяленне, якое ў стане вырашыць мноства ўзнікаючых (як і нявырашаных) праблем. І перш за ўсё — па арганізацыі, каардынацыі гэтай дзейнасці і па кантролю за яе станам у маштабах краіны.

Па-другое, яшчэ не створаны прадстаўнічы цэнтр, які мог бы ўзначаліць нарматворчую і іншую дзейнасць па захаванню дзяржаўных сакрэтаў, канцэнтраваць адпаведныя намаганні ўсіх міністэрстваў і ведамстваў, якія маюць да гэтага дачыненне, вырашаць узнікаючыя пры гэтым праблемы. Ужо год (ці каля гэтага) вырашаецца пытанне аб стварэнні Міжведамаснай камісіі па забеспячэнню захавання дзяржаўных сакрэтаў, якая магла б гэтым займацца. Але, як кажуць, «воз і цяпер там». Праўда, здаецца, ідзе к канцу прапрацоўка гэтага пытання ў прэзідэнцкіх структурах. Магчыма, што ўжо неўзабаве такая камісія будзе сфарміравана і пачне дзейнічаць.

**— Тады ўзнікае пытанне: ці не павінен усім гэтым займацца Камітэт дзяржаўнай бяспекі, які ў адпаведнасці з законам ажыццяўляе функцыі міжведамаснага кантролю?**

— Мяркую, не павінен. Паўнамоцтваў па міжведамаснаму кантролю тут яўна не хапае. Да таго ж падрыхтоўка неабходных нарматыўных дакументаў законам ускладзена на Кабінет Міністраў. Безумоўна, ён правамоцны даручыць Камітэту дзяржаўнай бяспекі (і такія даручэнні, наколькі вядома, даюцца) скласці праект канкрэтнага прававога акта, але канчатковая яго «даводка» — прэрагатыва ўрада ў цэлым, а не аднаго, няхай нават кваліфікаванага і кампетэнтнага, ведамства.

Па-трэцяе, дапушчана памылка (дакладней, недапрацоўка), якая закладзена ў пастанову Вярхоўнага Савета аб парадку ўводу ў дзеянне закона. Справа ў тым, што ў ім не агавораны тэрміны, у якія трэба распрацаваць неабходныя дакументы. Зразумела, калі няма тэрмінаў, то дакументы можна рыхтаваць колькі заўгодна, і нікому ніякіх прэтэнзій не прад'явіш. Паводле звестак, якія я маю, і ніхто іншы, уключаючы нават Кабінет Міністраў, такіх тэрмінаў не ўстанаўліваў.

Па-чацвёртае, варта мець на ўвазе цяжкасці, што ўзнікаюць з прычыны таго, што ў нас працягваецца дзяржаўнае будаўніцтва. Пакуль, на жаль, не закончана фарміраванне структур выканаўчай улады. А прыярытэты, як і акцэнты, у гэтым расстаўлены, як відаць са сказанага, так, што праблемы захавання дзяржаўных сакрэтаў не ёсць першачарговыя.

Нарэшце, па-пятае, не ўсё так проста і пры рабоце над самімі нарматыўнымі дакументамі. Хоць бы таму, што, напрыклад, пералік звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну, у адпаведнасці з патрабаваннямі закона павінен быць апублікаваны ў друку. Значыць, трэба шукаць новыя падыходы да яго фармулёвак — яны павінны быць такімі, каб усім было зразумела, пра што ідзе гаворка, але разам з тым не заўсёды змяшчаць у сабе дзяржаўныя сакрэты.

**— Што, на вашу думку, неабходна зрабіць у першую чаргу, каб Закон, нарэшце, «запрацаваў»?**

— Што канкрэтна? Удакладню. Па-першае, закончыць фарміраванне Міжведамаснай камісіі па забеспячэнню захавання дзяржсакрэтаў з вызначэннем яе паўнамоцтваў і кола абавязкаў. Па-другое, аднавіць названае падраздзяленне ў дзяржаўным апараце. І па-трэцяе, пад эгідай Кабінета Міністраў (ці Міжведамаснай камісіі, калі яна будзе надзелена такім правам) стварыць рабочыя групы па падрыхтоўцы ўсіх неабходных прававых актаў з указаннем канкрэтных тэрмінаў іх прадстаўлення. Ну і, зразумела, сканструяваць і задзейнічаць сістэму захавання дзяржаўных сакрэтаў у канкрэтных умовах Беларусі.

# ГЭТА ТОЙ БОЛЬ, ЯКІ НЕЛЬГА ЗАБЫЦЬ

26 красавіка, 10 гадоў таму назад, на нашу краіну абрушылася страшная бяда — аварыя на Чарнобыльскай АЭС. Здавалася б прайшло 10 гадоў і ўсё стала на свае месцы. Аднак здароўе ліквідатараў і перасяленцаў працягвае пагаршацца. Якая работа вядзецца гарадскімі ўладамі Мінска па падрыхтоўцы да 10-й гадавіны з дня чарнобыльскай катастрофы, расказвае намеснік старшыні Мінгарвыканкома І. Зелянкевіч. Вялікую ўвагу мэрыя сталіцы ўдзяляе інфармацыйнаму забеспячэнню насельніцтва. Каб падобная трагедыя не паўтарылася, пра яе ні ў якім разе нельга забываць. Ды і як забыць пра такое гора, калі... З ліку ўсіх абследаваных ліквідатараў і перасяленцаў здаровымі прызнаны толькі 10 працэнтаў, практычна здаровымі — 36 працэнтаў правяраемых, а астатнія 54 працэнты (больш за палову) пакутуюць ад аднаго або некалькіх хранічных захворванняў. Працягвае павялічвацца колькасць інвалідаў з ліку тых, хто быў у Чарнобылі. У Мінску іх налічваецца ўжо каля 750 чалавек, і ў 423 цяжкіх хворых прызнана прычынная сувязь паміж аварыяй і наступнай інваліднасцю. Захворваемасць ліквідатараў і перасяленцаў у два разы перавышае агульнагарадскі ўзровень. Па хваробах органаў кровазвароту, эндакрыннай сістэмы, парушэння абмену рэчываў, імуннай сістэмы захворваемасць пацярпеўшых на ЧАЭС у 3 разы вышэй, чым у цэлым па гораду. А хваробы органаў стрававання перавышаюць агульнагарадскія паказчыкі ў 6 разоў. Выклікае трывогу стан здароўя дзяцей гэтай катэгорыі грамадзян. Пры абследаванні 4 тысяч дзяцей было ўстаноўлена, што 18 працэнтаў з іх пакутуюць ад хранічных захворванняў, а абсалютна здаровымі прызнаны толькі 4 працэнты.

Урадам краіны прадугледжаны пэўныя льготы для ліквідатараў. У іх пералік уваходзіць бясплатнае атрыманне медыкаментаў, выраб і рамонт зубных пратэзаў, устаноўлены дародавы водпуск жанчынам працягласцю 90 каляндарных дзён і 56 дзён — пасляродавы. Асаблівая ўвага ўдзяляецца забеспячэнню пацярпеўшых санаторна-курортнымі пуцёўкамі. Аднак у 1995 годзе, па звестках І. Зелянкевіча, прайшлі цыкл аздараўлення толькі 25 працэнтаў ад колькасці маючых патрэбу і 8 працэнтаў — ад агульнай колькасці чарнобыльцаў. Астатнія людзі атрымалі грашовую кампенсацыю.

Аднак грашовая кампенсацыя не верне страчанага здароўя. У сувязі з гэтым улады горада ўдзяляюць вялікую ўвагу ўмацаванню матэрыяльнай базы ўстаноў аховы здароўя. Была пабудавана дарослая паліклініка ў мікраараёне Малінаўка і ў гэтым годзе завяршаецца будаўніцтва дзіцячай. Аснашчэнне абсталяваннем паліклінікі вядзецца сумесна з фондам «Дзецям Чарнобыля» і шэрагам іншых таварыстваў, арганізацый. У прыватнасці, горад-пабрацім Сендай з Японіі вырашыў аказаць нам гуманітарную дапамогу да дзесяцігоддзя чарнобыльскай катастрофы і аснасціць дзіцячую паліклініку японскім абсталяваннем.

У красавіку гэтага года плануецца правесці тыдзень міласэрнасці для маламаёмных ліквідатараў, у час якой ім будзе перададзена звыш 1 тыс. харчовых набораў. У гэты ж час перасяленцам, удзельнікам ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС, сем'ям памёршых і інвалідам-чарнобыльцам будзе аказана грашовая дапамога на агульную суму 50 млн. руб.

Блок сацыяльных пытанняў не абмяжоўваецца акцыяй, прымеркаванай да 10-годдзя чарнобыльскай трагедыі. На жаль, гэтая праблема — на доўгія і доўгія дзесяцігоддзі, на заканчэнне гутаркі адзначыў спадар Зелянкевіч.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# ЧАРНОБЫЛЬ — НЕ ЎЧАРАШНІ ДЗЕНЬ

**Шмат бяды прынёс Чарнобыль беларускім сем'ям: зона адчужэння, пакінутыя дамы, забруджаная паша, людзі, адарваныя ад свайго жылля, боль і гора якіх схавана пад казённым словам «перасяленцы»... «На жаль, гэтыя і іншыя факты з кожным прайшоўшым пасля трагедыі годам усё больш становяцца звычайнымі з'явамі, сімваламі мінулага. Напярэдадні трагічнай гадавіны аварыі на ЧАЭС у нашай краіне вырашылі аб'явіць аб пачатку аднаўленчага перыяду пасля аварыі.**

Спецыялісты выдзяляюць тры часавыя этапы — ранні, прамежкавы і аднаўленчы, — якія ідуць за любой буйнамаштабнай радыяцыйнай аварыяй з выкідам радыеактыўных рэчываў. Такі падзел абумоўлены тым, што на кожным з этапаў узроўні апраменьвання насельніцтва могуць адрозніваццa, а гэта ў сваю чаргу патрабуе рознай стратэгіі і тактыкі правядзення ахоўных мерапрыемстваў па ліквідацыі вынікаў аварыі. Пад аднаўленчым жа этапам маецца на ўвазе вяртанне да нармальных умоў жыцця і спыненне шырокамаштабных мерапрыемстваў па абароне насельніцтва, уведзеных на двух папярэдніх этапах. Правядзенне такой палітыкі ў нашай краіне можа азначаць толькі адно: радыяцыйнае апраменьванне ўжо не мае сур'ёзнай пагрозы.

Але любы разважлівы чалавек натуральна пацікавіцца: «А куды ж, уласна, радыяцыя падзелася?» Перыяд жа паўраспаду натуральным шляхам такіх доўгажывучых радыенуклідаў, як цэзій-137 і стронцый-90, складае адпаведна 30 і 29 гадоў. А для поўнага іх знікнення патрабуецца 300 гадоў. Відавочна, што мінулае дзесяцігоддзе — не тэрмін для такой сур'ёзнай катастрофы.

Аварыя на ЧАЭС, безумоўна, не прайшла бясследна для ўсёй Беларусі: але адны тэрыторыі пацярпелі ў большай ступені, іншыя — у меншай. Напрыклад, Мінскай вобласці, у параўнанні з Гомельскай і Магілёўскай, у пэўным сэнсе «пашанцавала» — іх «накрыла» радыяцыяй не поўнасцю.

Таму для яе характэрна не суцэльнае, а так званае плямістае забруджванне радыенуклідамі. Больш за ўсё дасталося Валожынскаму, Бярэзінскаму і Салігорскаму раёнам.

І ўсё ж, нягледзячы на тое, што ў цэлым радыяцыйнае становішча ў Мінскай вобласці больш спрыяльнае, чым у іншых рэгіёнах краіны, аднак трэба глядзець праўдзе ў вочы — нават тут усё не так добра, як нам хацелася б. Як гаворыцца, лічбы — упартая рэч.

Такім чынам, паводле даных, атрыманых у аддзеле радыяцыйнай гігіены Мінскага абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, на сённяшні дзень у зоне забруджвання радыенуклідамі на тэрыторыі вобласці размешчаны 271 населены пункт з насельніцтвам больш як 45 тысяч чалавек. З іх 241 населены пункт знаходзіцца на тэрыторыях з забруджваннем па цэзію-137 — ад 1 да 5 кі/кв. км і ў зоне забруджвання са шчыльнасцю ад 5 да 15 кі/кв. км — 30 населеных пунктаў (для параўнання: да аварыі забруджванне складала 0,02 кі/кв. км). Агульная плошча забруджвання доўгажывучымі радыенуклідамі на тэрыторыі Мінскай вобласці складае 96.443 гектары (45.331 гектар сельгасугоддзяў і 51.112 гектараў лясных масіваў). Максімальныя ўзроўні забруджвання цэзіем — ад 30 да 66 кі/кв. км — былі зарэгістраваны ў раёне в. Пуні (саўгас «Падбярэззе», Валожынскі раён) і ад 15 да 40 кі/кв. км — у лясных масівах (на плошчы ў 700 гектараў).

Між тым, не менш небяспечнае для здароўя і ўнутранае апраменьванне. Небяспека ў дадзеным выпадку зыходзіць ад забруджаных харчовых прадуктаў, удыхаемага паветра і пашкоджанай скуры, праз якія радыенукліды трапляюць у арганізм чалавека і накопліваюцца ў важных органах і тканках. У 1995 годзе па Мінскай вобласці былі даследаваны 26.103 пробы харчовых прадуктаў і пітной вады, з іх 328 проб (1,25 працэнта) аказаліся забруджанымі вышэй гранічна дапушчальных узроўняў. Узровень паступлення цэзію-137 з сутачным харчовым рацыёнам у арганізм жыхара склаў у 1995 годзе 1,9 працэнта ад мяжы гадавога паступлення (для параўнання: у 1989 г. — 2,5 працэнта). Пагрозу здароўю ўяўляюць заражаныя ягады, грыбы, мясапрадукты, жытні хлеб і малако з прыватнага сектара.

Цяпер накопліванне радыяцыі пераважна адбываецца на зямлі. Не кожны ведае, што змена шыпулек у хвойных парод, а менавіта яны больш за ўсё «ўбіраюць» у сябе радыяцыю, адбываецца... раз у 5—7 гадоў. Такім чынам знаходзіць лагічнае тлумачэнне «раптоўнае» павышэнне гама-фону ў адносна «чыстых раёнах» і чуткі аб новых выкідах з ЧАЭС не маюць пад сабой падстаў. Але, магчыма, сёлетняя паводка яшчэ больш абвострыць сітуацыю, і карта радыяцыйнага забруджвання стане яшчэ больш «стракатай».

Але ўжо сёння вынікі медыцынскіх абследаванняў, якія праводзяць на забруджаных тэрыторыях, нягледзячы на тое, што рэзкага павелічэння агульнага захворвання сярод насельніцтва тут не выяўлена, прымушаюць насцярожыцца. Так, у параўнанні з насельніцтвам, якое жыве на «чыстых» участках, тут захворванне з упершыню выяўленымі захворваннямі вышэй як сярод дарослых, так і сярод дзяцей: 645,9 выпадку на 1000 абследаваных (па вобласці — 569) сярод дарослых і 994,8 выпадку па вобласці — 954) сярод дзяцей. Таму прычыны для апасення ёсць: спецыялісты не выключаюць, што прычынай павелічэння захворвання на эндакрынныя хваробы, хваробы крыві і крывятворных органаў, нервовай сістэмы і органаў пачуццяў, сістэмы кровазвароту магло стаць уздзеянне іанізуючага выпраменьвання, а таму работнікам аховы здароўя, якія павінны забяспечваць радыяцыйную бяспеку насельніцтва, супакойвацца рана.

Між тым, праверкамі было ўстаноўлена, што шэраг значных процірадыяцыйных мерапрыемстваў у забруджаных раёнах выконваўся нездавальняюча.

Так, напрыклад, абыякава ставіліся да магчымасці радыяцыйнага заражэння праз скуру: у час пасяўной і ўборачнай кампаній летась у Валожынскім раёне не працавала 10 з 57 грамадскіх лазняў, у Маладзечанскім — 10 з 28, у Салігорскім — 9 з 52. Працуючыя нездавальняюча забяспечваліся спецадзеннем, у тым ліку і пыланепранікальным.

У цэлым па Мінскай вобласці сярэднегадавыя ўзроўні гама-фону склалі ў 1995 годзе ад 7 да 18 мкР/гадзіну (да аварыі ўзровень радыяцыйнага гама-фону вышэй за 18 мкР/гадзіну не адзначаўся; пасля аварыі ён павялічыўся ў дзесяткі разоў і месцамі дасягае 160—180 мкР/гадзіну).

Вось якія справы ў адносна «чыстай» Мінскай вобласці. Што ўжо тут гаварыць аб Гомельскай ці Магілёўскай... Вельмі не хочацца верыць, што адгрымяць напярэдадні трагічнай гадавіны пампезныя мерапрыемствы, успомняць у гэтыя дні загінуўшых, паставяць ім помнік і... тут жа забудуць. Чарнобыль стане днём учарашнім, а гора ўсёй краіны — асабістай бядой кожнага. Бясспрэчна, мёртвым патрэбна памяць, а жывым патрэбна дапамога.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*КРЫК ДУШЫ*

# «ШТО Ж ВАС НЕ ВЫЛЕЧЫЛІ Ў ГЕРМАНІІ?»

**Кашмар у жыцці маёй былой жонкі Галіны Скуратовіч пачаўся ў чэрвені 1991 г., пасля таго як яна звярнулася ў 12-ю паліклініку наконт лячэння зуба. Банальная па сутнасці сітуацыя прывяла да некалькіх аперацый у аддзяленнях сківічна-тваравай хірургіі медыцынскіх устаноў Мінска, Ленінграда і Кіева, страты працаздольнасці і выклікала неаб'яўленую вайну Міністэрства аховы здароўя супраць самой пацярпеўшай.**

Справа ў тым, што пацыентка, страціўшы надзею на аднаўленне здароўя, патрабуе ад урачоў ці ведамства кампенсацыі маральных і матэрыяльных затрат, а таксама выдзялення сродкаў на лячэнне ў спецыялістаў, якія гэта ўмеюць рабіць і маюць неабходныя для гэтага ўмовы.

Патрабаванне да ўмоў мае абавязковы характар, паколькі на працягу першых двух гадоў пасля няўдалага лячэння хворай было зроблена ўвогуле 8 аперацый па ліквідацыі пламбіровачнага матэрыялу, з прасвідраванай амаль наскрозь сківіцы і мяккіх тканак яго дастаць поўнасцю не ўдалося, хоць пры гэтым у сківіцы быў знойдзены абломак свердзела(!). Гэту акалічнасць урач Н. Парэцкая ўтаіла, не зрабіўшы адпаведнага запісу ў амбулаторнай карце, што на наступных этапах лячэння не дало магчымасці адразу дыягнаставаць усе іншародныя целы і выдаліць іх.

У канчатковым выніку лепшымі спецыялістамі было прызнана, што аперацыя ў айчынных умовах (а тады лячэнне было магчыма і на адпаведных кафедрах ваенна-медыцынскай акадэміі ў Ленінградзе і стаматалагічнага інстытута ў Кіеве) асуджана на правал.

Галіне было сказана, што неабходныя для паспяховай аперацыі ўмовы існуюць у еўрапейскіх клініках, і яна звярнулася па дапамогу ў гарадскі аддзел аховы здароўя і Міністэрства аховы здароўя. Адначасова ў суд Першамайскага раёна сталіцы падала заяву аб спагнанні з паліклінікі матэрыяльных затрат, а ў пракуратуру — аб прыцягненні ўрача Н. Парэцкай да крымінальнай адказнасці.

У заключэннях галоўнага хірурга Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь С. Леановіча, галоўнага стаматолага П. Леуса і прафесара сківічна-тваравай хірургіі А. Чудакова была пацверджана наяўнасць іншароднага цела ў мяккіх тканках дна поласці рота і ўстаноўлена неабходнасць лячэння за мяжой. У ліпені 1993 г. гарадскі аддзел аховы здароўя правёў службовае расследаванне і ўстанавіў, што гэтая сітуацыя склалася па віне стаматолага Н. Парэцкай.

Усё пацвердзіла камісія Міністэрства аховы здароўя пад старшынствам намесніка міністра М. Сцепаненкі, якая падоўжыла хворай II групу інваліднасці і прыняла рашэнне аб яе накіраванні для лячэння за мяжу.

Але, відавочна таму, што здароўе савецкага чалавека бясцэннае (у тым сэнсе, што нічога не вартае), а для яго лячэння за мяжой патрэбна валюта, міністр аховы здароўя адмяніў рашэнне гэтай камісіі і стварыў новую — на чале з начальнікам аддзела экспертызы працаздольнасці В. Калбанавым, якая адмяніла ўсе папярэднія заключэнні і рашэнні і знайшла «падставы» для накіравання хворай на кансультацыю да псіхіятра.

Рабілася гэта неаднаразова, але паколькі кансіліум вядучых псіхіятраў горада не знайшоў у хворай псіхічных захворванняў, то было вырашана прызнаць яе практычна здаровай і пазбавіць групы інваліднасці.

Так пачалася тая самая неаб'яўленая вайна, у якой звярталіся да арганізацыі шматлікіх камісій і кансіліумаў, а тыя падвяргалі сумненню ці адмаўлялі высновы папярэдніх, часта нават прынятых у тым жа саставе спецыялістаў. У адказ на выбраную чыноўнікамі тактыку прамаруджвання «вар'ятка» прымяніла даволі рашучы ход, аб'явіўшы галадоўку ля Савета Міністраў, якая працягвалася 24 дні.

У канчатковым выніку справа стала вядома шырокай грамадскасці, і Саўмін пералічыў на рахунак Міністэрства аховы здароўя 35 тыс. долараў, а тое пералічыла іх на рахунак пасрэдніцкай фірмы «Алекс» у Мюнхене, якую ўзначальвае сын былога міністра аховы здароўя А. Саўчанкі.

На першай жа кансультацыі ў Мюнхене было прынята рашэнне аб неабходнасці хірургічнага лячэння і на 12 ліпеня 1994 г. назначана аперацыя. Але А. Саўчанка ў адсутнасць хворай паўторна пагутарыў з нямецкім прафесарам, і той адмяніў сваё ўласнае рашэнне. Пасля чаго хворая была абследавана, дыягназ пацверджаны і выдадзена заключэнне аб неабходнасці паўторнага прыезду ў клініку для вызначэння далейшай тактыкі лячэння.

На пытанні аб тым, чаму гэта было зроблена пры пацвярджэнні дыягназу і запаленчага працэсу, які працягваўся, зразумелага адказу А. Саўчанка не даў. У хворай склалася ўражанне, што ён проста сарваў аперацыю. Ускосным пацвярджэннем таму служыць нежаданне Міністэрства аховы здароўя выдаць на рукі рэнтгенаўскія здымкі, даныя камп'ютэрнай тамаграфіі і іншыя дакументы з Германіі, а таксама заявы некаторых чыноў з ведамства аховы здароўя, якія спекулююць на немагчымасці даказаць факт такога зрыву.

Пасля гэтага Міністэрства аховы здароўя адмовіла хворай ва ўсякім лячэнні і пакінула без сродкаў да існавання, зняўшы і III групу інваліднасці.

Так міністэрства атрымала перамогу, а ў Г. Скуратовіч засталося адзінае выйсце — спагнаць грошы з паліклінікі на лячэнне праз суд, тым больш, што незалежная судова-медыцынская экспертыза, якая адбылася ў студзені 1995 г. у ваенным шпіталі № 432, устанавіла, што хвароба наступіла ў выніку неасцярожных дзеянняў і халатнасці ўрача Н. Парэцкай, а пракуратура Першамайскага раёна, угледзеўшы ў дзеяннях урача састаў злачынства, прадугледжанага пунктам 4.1. арт. 112 КК Рэспублікі Беларусь, ва ўзбуджэнні крымінальнай справы адмовіла ў сувязі са скančэннем тэрміну даўнасці.

Гэта значыць, пакуль «не прайшоў тэрмін даўнасці», не было саставу злачынства, а калі «з'явіўся» састаў, — скончыўся тэрмін. Цяпер раённая пракуратура вырашыла правесці трэцюю па ліку экспертызу, накіраваўшы справу тым урачам Мінскага медінстытута, якія ўдзельнічалі ва ўсіх ранейшых кансіліумах, катэгарычна адмаўляючы рэчы відавочныя, шматразова пацверджаныя незацікаўленымі асобамі. Просьбу хворай правесці незалежную экспертызу пракуратуры раёна і горада пакінулі без адказу.

Сумненні ў аб'ектыўнасці высноў будучай камісіі ўзнікаюць і таму, што раённай пракуратурай згублены арыгіналы дакументаў, якія пацвярджаюць віну ўрача, напрыклад, гісторыя хваробы з 23-й бальніцы г. Кіева, дзе хворай дасталі абломак свердзела, і іншыя. Праўда, цяпер пацярпеўшая мае на руках пацверджанае пад прысягай пасведчанне кіеўскага хірурга, які пацвярджае факт даставання абломка свердзела са сківіцы пацыенткі беларускіх стаматолагаў.

Трэці год у вытворчасці пракуратуры Першамайскага раёна знаходзіцца гэта справа, і канца ёй не відаць. Столькі ж часу ў судзе ляжыць заява аб кампенсацыі матэрыяльных затрат і да гэтага часу ні разу не разглядалася. Відаць, правасуддзе чакае, калі праблема вырашыцца «натуральным шляхам».

Дабіцца справядлівасці складана ў нашай дзяржаве, але яшчэ цяжэй справіцца з крыўдай, калі медык, да якога звяртаюцца па дапамогу, сустракае рэплікай: а што ж вас не вылечылі ў Германіі?

Без віны вінаватая жанчына пакутуе ўжо пяць гадоў. Два гады яе рэзалі хірургі, выпраўляючы памылкі стаматолага, але так і не выправілі. Тры гады пасля гэтага яна ходзіць па інстанцыях, дабіваючыся таго, што гарантавана Канстытуцыяй — права на эфектыўнае лячэнне і сацыяльнае забеспячэнне.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ.**

*ПРАПАНУЮ*

# ХАЧУ МЕЦЬ СПРАВУ З ДЗЯРЖАВАЙ

Мяне вельмі хвалюе такое вось пытанне

Я жыву адна ў трохпакаёвай кватэры. Горад наш невялікі, і спроба прадаць яе не дае выніку: кватэр прадаецца многа, таму што з работай у нас цяжка, асабліва маладым людзям. Набыць жыллё жадаючых хапае, але ж у каго цяпер ёсць за што. Вось я і жыву адна ў вялікай кватэры, у той час як мой сын у другім горадзе не мае жылля, але ж там у яго ёсць работа.

Я ведаю, што дзяржава купляе такія кватэры і прадае сваім грамадзянам. Для дзяржавы гэта не такія ўжо вялікія выдаткі, а для людзей — вельмі патрэбная справа.

Праўда, не аднойчы і ваша газета пісала, што такой вострай праблемай часта карыстаюцца розныя зламыснікі, і нярэдка старыя людзі пасля продажу кватэр знікаюць невядома куды. Вось і хочацца мець справу з дзяржавай, а не з бандытамі. З боку дзяржавы гэта быў бы відавочны клопат аб сваіх грамадзянах.

*Віцебская вобласць.*

***P.S. Калі пісьмо маё надрукуеце, то прозвішча прашу не ўказваць.***

*«НАРОД, БЕЛАРУСКІ НАРОД!..»*

# ПРЫСВЯЧАЕЦЦА МАЦІ І МАТЧЫНАЙ МОВЕ

**В**ЫХАД У СВЕТ кнігі Ніла Гілевіча «Любоў прасветлая» (выдавецтва «Навука і тэхніка, 1996 г.) — падзея, а сама кніга — з'ява. І не толькі ў літаратурным, але і ў грамадска-палітычным жыцці сённяшняй Беларусі. Бо яна, гэта кніга, — не толькі плён мастацкай і публіцыстычнай творчасці, але і акт вялікай грамадска-патрыятычнай працы, акт шматгадовага, адданага, падзвіжніцкага служэння ідэі — ідэі Бацькаўшчыны, ідэі Беларушчыны, ідэі нацыянальнага адраджэння. Гэта кніга — учынак, кніга — подзвіг, кніга — Евангелле, Евангелле ад Ніла (Гілевіча).

Думаю, што не перабольшваю і толькі аддаю належнае.

Кажу гэта як чалавек, які на працягу доўгіх гадоў быў сведкам таго, як, у якіх абставінах і якой цаной стваралася кніга. Аўтар кнігі мог бы, наследуючы Янку Купалу, таксама сказаць: «Навучыўся я слоў беларускіх ад маці». І галоўную кнігу свайго жыцця (па яго прызнанні) ён прысвячае светлай памяці Маці.

Дык што ж гэта ўсё-такі за кніга? Што гэта за «любоў прасветлая»? Паслухаем спачатку самога аўтара. «Не манаграфія, не падручнік, не нарыс, а лірыка-публіцыстычная хроніка, — піша ў прадмове Ніл Гілевіч. — Кніга ў найвышэйшай ступені асабістая. Аб мове я гавару ў ёй вершамі і публіцыстычнай прозай. Гэта свайго роду «выбранае» з таго, што напісана мною на адну неабсяжна вялікую, а для мяне, як цяпер ужо бачна, галоўную тэму майго жыцця, маёй літаратурнай працы. На тэму: родная мова. У межах гэтай агульнай «тэмы» чытач лёгка выдзеліць некалькі самастойных змястоўных аспектаў, у прыватнасці: мова і асоба чалавека, мова і нацыянальная самасвядомасць, мова і гістарычны лёс народа, мова і дзяржава, мова як першаэлемент нацыянальнай культуры, мова і адукацыя, мова і навука, мова і фальклор, мова і літаратура, моўнае майстэрства пісьменніка, мова і мастацкі пераклад, мова і тэатр, культура мовы, праблема двухмоўя, пытанні правапісу і многае іншае. Над усім гэтым і ва ўсім гэтым — любоў да роднага слова, гонар за яго высокія прыродныя вартасці, радасць ад карыстання ім, больш за яго прыніжэнне варварамі — вандаламі, горыч за здраду яму саміх жа беларусаў, і — непахісная вера, што яму, вялікаму і магутнаму роднаму слову, жыць вечна».

Словам, мова, мова і яшчэ раз мова! Словам, кніга, створаная ў імя роднай мовы і прынесеная на алтар яе.

Прадмову аўтар заканчвае наступнымі словамі: «Па вядомых прычынах найбольшы плён гэтае працы прыпадае на апошнія дзесяць гадоў, калі стала зразумела, што гісторыя дае нам, беларусам, яшчэ адзін — несумненна, апошні — шанц, каб мы канчаткова і назаўсёды сцвердзілі сябе як самастойны свабодны славянскі народ у суверэннай, незалежнай дэмакратычнай беларускай дзяржаве. Толькі ў святле гэтай высакароднай ідэі, гэтай багаславёнай мэты бачу апраўданым усё, што я зрабіў і раблю як літаратар і навуковец, як грамадзянін і сын Беларусі».

Аўтарская самахарактарыстыка выразна пацвярджаецца шматлікімі старонкамі зборніка, пераканаўча раскрываецца ў многіх яго радках накшталт: «Мне няма чаго баяцца, каб сказаць, што ўсё свядомае жыццё, з маладых гадоў, ува мне несціхана крычыць адзін боль — боль за нашу бяспраўную, занядбаную, адціснутую на задворкі жыцця мову»; «Ад нацыянальнай смерці ратуе вернасць роднаму слову»; «Калі дзяржава не стварае ўмоў для развіцця інтэлекту нацыі, гэта, выбачайце, не мудрая дзяржава, яна асуджана на заняпад»; «Мова і дзяржаўная незалежнасць — адно непарыўнае цэлае, адно без другога існаваць не можа»... І гэтак далей.

Пэўнасць пазіцыі, мастакоўскай і грамадзянскай, вернасць аднойчы абранай тэме, адданасць нацыянальна-патрыятычнай ідэі — гэта першае, што ўражвае, не можа не ўражваць, пры знаёмстве з кнігай і што складае яе асноўную, па-свойму непаўторную асаблівасць.

*Он знал одной лишь думы власть,*
*Одну, но пламенную страсть.*

Што гэта менавіта так — наглядна пераконвае, у прыватнасці, своеасаблівае абрамленне кнігі «Прасветлая любоў» — дзве яе публікацыі: верш «Першая клятва», якім кніга адкрываецца, і артыкул «Я заклінаю вас!», якім яна завяршаецца. Верш напісаны ў сакавіку сорак сёмага года, гэта значыць шаснаццацігадовым школьнікам, а артыкул — у ліпені дзевяноста пятага, выйшаў з-пад пяра убеленага сівізной літаратара, народнага паэта Беларусі, вядомага грамадскага і дзяржаўнага дзеяча. Адлегласць у часе — амаль паўвека. А як яны, гэтыя творы, пераклікаюцца! Адной і той жа клічнай інтанацыяй, сваімі назвамі (адзін і той ж корань), сваімі заключнымі радкамі. «А задумае вораг з чужога далёкага краю адабраць у мяне, знішчыць родную мову маю — Не дазволю. Не дам. Не прадам. Не змяняю. І да смерці за волю яе пастаю! — так вось па-максімалісцку заканчвае свой верш-клятву юны паэт. На амаль такой жа, па зместу і пафасе, ноце гучаць і заключныя словы артыкула, надрукаванага летам мінулага года ў газеце «Народная воля». «Паважаныя суайчыннікі, людзі зямлі беларускай! — звяртаецца аўтар, як ён кажа, «на схіле летаў сваіх». — Не дайце ўвесці сябе ў зман, каб не страціць свае найвялікшыя святыні, а перш за ўсё — нашу Богам дадзеную нам мову! Верце толькі тым і ідзіце толькі за тымі, для каго свабода і незалежнасць Беларусі — даражэй за ўсё на свеце!»

На дзіва незвычайная паслядоўнасць, ці не так?

Уражваюць яшчэ і той інструментарый, той набор выяўленчых сродкаў і прыладаў, якія выкарыстоўвае аўтар для вырашэння сваёй галоўнай тэмы, а таксама тая адметная гама эмоцый і рухаў душы, якую ён спазнае пры гэтым. (Пра некаторыя з іх, мабыць, самыя істотныя, ён шчыра сказаў у прыведзенай вышэй прадмове.)

Наводзіць кніга і на такі роздум. Услед за вядомымі выказваннямі Герцэна і Някрасава адносна грамадскай місіі паэта, мастака слова наш сучаснік, равеснік Н. Гілевіча Яўгеній Еўтушэнка ўсклікнуў: «Поэт в России больше, чем поэт!» І вось, спыняючыся на тых старонках кнігі, дзе аўтар гаворыць пра трагічны лёс вялікіх папярэднікаў, верных сыноў народа, «апосталаў і духаў-заступнікаў Беларусі», усведамляеш, што ў Беларусі паэт і пагатоў больш, чым толькі паэт, чым вершатворца. Бо тут яму наканавана быць не толькі грамадзянінам і палітыкам у агульнапрынятым сэнсе гэтых слоў, але яшчэ і адстойваць права беларуса быць беларусам, суджана быць носьбітам нацыянальнай ідэі, быць абаронцам роднай мовы і трывожна перасцерагаць: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» І калі той жа Еўтушэнка — прадоўжым паралель з расійскім сабратам па пяру — піша ў адным са сваіх апошніх вершаў:

*Смерть всегда хоть чуть да ранняя.*
*Не боюсь, что смерть близка,*
*А боюсь я умирания*
*Родины и языка,*

ці калі другі вядомы рускі пісьменнік горка канстатуе, што «разам з культурай хочуць знішчыць рускі народ», то і той і другі зусім не рызыкуюць быць, скажам так, прылічанымі да разраду нацыянал-радыкалаў або нацыяналістаў. А вось іх беларускага калегу Ніла Гілевіча за такія ж прыблізна выказванні некаторыя нашы рэдактары і нават афіцыйныя асобы «праводзяць» менавіта па такому разраду: нацыяналіст (а то яшчэ і нацыянал-фашыст). Сапраўды, як пісаў з'едліва Пімен Панчанка: «Гаворыш па-руску — інтэрнацыяналіст, гаворыш па-беларуску — нацыяналіст».

Перагортваючы старонкі кнігі «Прасветлая любоў», міжволі зазначаеш і наступны момант. Нашы мясцовыя змагары за так званую славянскую еднасць ломяцца, што называецца, у даўно ўжо адчыненыя іншымі дзверы. У кнізе кавалера ордэна Кірылы і Мяфодзія, лаўрэата Міжнароднай прэміі імя Боцева, даўняга перакладчыка са славянскіх моў можна знайсці і спасылкі на рускіх пісьменнікаў, і мастацкія пераклады з балгарскай, славенскай, сербахарвацкай і лужыцкай моў, і зацікаўленыя выступленні на канферэнцыях, прысвечаных узаемадзеянню і ўзаемаўзбагачэнню славянскіх культур, і артыкул, які так і называецца: «Славянскае слова». Праўда, у адрозненне ад тых, хто палітыканствуе вакол славянскай тэмы, паэт праяўляе рэальны клопат пра лёс славянскіх народаў і іх культур. «Ці заўсёды на вялікім гістарычным шляху мы, славянскія народы, былі мудрымі братамі — жылі душа ў душу, ішлі пляча да пляча, узаемна разумеючы адзін аднаго і адзін другому дапамагаючы? — так ставіць пытанне аўтар артыкула «Славянскае слова» і прадаўжае: «На вялікі жаль, было і не так, было па-рознаму... А ці дастаткова мудрасці ў нашых узаемаадносінах сёння? Ці з дастатковай павагай і шчырасцю мы адзін да другога ставімся? Ці дастаткова мы ўзаемна клапатлівыя? Як бы хацелася сказаць: так, вядома! На вялікі жаль, і тут прыходзіцца рабіць сумныя агаворкі. Як, напрыклад, можа мірыцца ўвесь славянскі свет, што ў яго на вачах сыходзілі з жыцця мовы такіх вялікіх славянскіх народаў, як украінскі і беларускі, каціліся да поўнага заняпаду іх непаўторна-самабытныя нацыянальныя культуры? Кажу пра сапраўды вялікія славянскія народы, ну а лёс мовы і культуры сербаўлужычан або кашубаў? Хіба ўсе дужэйшыя, большыя, упэўненыя ў сваім заўтрашнім дні пабрацімы могуць сказаць, што прынялі іх лёс блізка да сэрца?»

Цяжка не пагадзіцца, думаю, з такім вось мудрым канструктыўным падыходам да праблемы.

... Падчас навуковай канферэнцыі на тэму «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты», якая праходзіла не так даўно ў Доме літаратара і якую адкрываў уступным словам Ніл Гілевіч, у фае працавалі кніжны і газетны кіёскі. Прадавалася і кніга «Прасветлая любоў». Даволі вялікі стос яе асобнікаў хутка раставаў. Удзельнікі канферэнцыі і запрошаныя набывалі і тут жа нецярпліва разгортвалі кнігу, якая прысвечана маці і матчынай мове і дзе пра стан беларускага слова сказана, бадай, усё, што фізічна можна пра яго сказаць на сённяшні дзень...

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

## Цытата рубрыкі:

***«Дзякуючы эфектыўным індывідуальным заняткам, працы над тэмай «Развіццё сінтаксічных нормаў беларускай літаратурнай мовы», наведванню лекцый і канферэнцый і, не ў апошнюю чаргу, сардэчным асабістым кантактам з беларускімі калегамі і сябрамі, асноўнае месца ў маім навуковым жыцці заняла цікавасць да ўсяго беларускага. У 1987 г. я зноў знаходзілася паўгода ў Беларусі. З таго часу, уводзячы новых студэнтаў у свет беларускай граматыкі, я раблю ўсё магчымае, каб яны ўбачылі прыгажосць гэтай «прыемнай» мовы. Некаторыя студэнты на працягу некалькіх семестраў прыходзілі да мяне на лекцыі і семінары, і мы разам займаліся перакладамі сучаснай белетрыстыкі і лірыкі. Цяпер разам з прафесарам Гутшмітам я выкарыстоўваю назапашаны вопыт пры напісанні кніг па беларускай мове для немцаў».***

**Доктар Соня ХАЙЛЬ, супрацоўніца кафедры славістыкі Берлінскага універсітэта імя Гумбальта.**

*Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь «Кантакты і дыялогі». Сакавік 1996.*

***Аляксандр БУХВОСТАЎ:***

*ПОГЛЯД*

# «ПРАФСАЮЗЫ ПАВІННЫ РАШУЧА ПАТРАБАВАЦЬ... ПАЛІТЫКА ЗГОДНІЦТВА НЕ ДЛЯ НАС»

***Наш субяседнік — сустаршыня Асацыяцыі незалежных прафсаюзаў прамысловасці Беларусі Аляксандр Бухвостаў. Ён жа — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, старшыня Савета прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання. Прафсаюзная арганізацыя, якую узначальвае А. Бухвостаў, — адна з буйнейшых на Беларусі. Зусім нядаўна асацыяцыя звярнулася да Прэзідэнта краіны, да прэм'ер-міністра з інфармацыйным лістом. Сярод іншых праблем прафсаюзныя актывісты звярнулі ўвагу і на наступныя акалічнасці: «...напружанасць у арганізацыі вытворчасці, забяспечанасці работай прадпрыемстваў не знікае. Па-ранейшаму не могуць пачаць нармальна працаваць мінскія трактарны і аўтамабільны заводы, што адбіваецца на вялікай колькасці агрэгатных заводаў, якія забяспечваюць работу канвеераў. Не даў начных пазітыўных зрухаў узаемаразлік паміж суб'ектамі гаспадарання». І далей: «Па-ранейшаму не выконваюцца калектыўныя дагаворы і тарыфныя пагадненні па тэрмінах і перыядычнасці выплаты зарплаты. На 19 сакавіка на большасці прадпрыемстваў не пачалася нават выплата зарплаты за люты, не кажучы ўжо пра выдачу авансу. Заработная плата на асобных прадпрыемствах (Смаргонскі агрэгатны завод «ВА» «Бабруйскаграмаш» і інш.) у 1,5—2 разы за ніжэй мінімальны спажывецкі бюджэт...» Мы вырашылі задаць аднаму з ініцыятараў напісання інфармацыйнага ліста некалькі пытанняў.***

— **Аляксандр Іванавіч, ніякіх сумненняў не выклікае ваша шчырае жаданне дапамагчы людзям. Але ж і вы павінны разумець, што на ўсе гэтыя прамаруджванні, на нізкі ўзровень заработнай платы ўплывае стан эканомікі.**

— Дык што — вы прапаноўваеце пайсці на кампрамісы, зразумець урад, які і без таго б'ецца як рыба аб лёд? Так, на ўвесь сённяшні стан грамадства і вытворчасці ўплываюць эканамічныя законы. Ці хутчэй — заканамернасці. Дык чаму ўлада не будуе згодна з імі, згодна з сучасным развалам эканомікі праграму выхаду з крызісу? Мне здаецца, што такой праграмы няма. І таму я проста перакананы, што прафсаюзы павінны рашуча патрабаваць. Найперш — стварэння нармальных умоў нармальна зарабіць, своечасова атрымаць заробленае. Палітыка згодніцтва не для нас.

Мне здаецца, што жыццядзейнасць грамадства павінна развівацца, доўжыцца ў развіцці, судакрананні супярэчнасцей. Мы ж не складаем спецыяльна праграму для выбівання зарплаты для рабочых. Але калі яе не выплачваюць, то выкарыстоўваем пэўную тактыку, пэўныя сродкі для дасягнення мэты, для вырашэння сацыяльных праблем. І ўвогуле, лічу, развіццё павінна ісці ў залежнасці ад сацыяльных запатрабаванняў. Спачатку — павышэнне сацыяльнай планкі, пасля — падцягванне эканамічных магчымасцей.

— **Але ж часта рэаліі жыцця супярэчаць запатрабаванням...**

— Не рабіце з прафсаюза монстра. У нармальнай дзяржаве якраз усё так і адбываецца. Ёсць заканадаўства, ёсць наймальнікі на працу, ёсць прафсаюзы. Кожны займаецца сваёй справай. Адны кантралююць ход вытворчасці, сочаць за яе развіццём, другія акцэнтуюць увагу на сацыяльнай сферы, згодна з заканадаўствам заключаючы пагадненні, дамоўленасці.

— **У нас хіба не так?**

— Вядома ж, не. У нас да ўсіх спраў кампанейскі падыход. Сёння дружна апякуемся вытворчасцю, заўтра (на тыдзень-другі) звернем увагу на сацыяльныя праблемы.

— **Аляксандр Іванавіч, дзяржава, пэўна, толькі ўдзячная будзе, калі вы як след ахопіце сацыяльную сферу. Але тут, відаць, ёсць і пэўная супярэчлівасць. Хіба сёння прафсаюзы здольны вырашыць увесь спектр сацыяльных праблем?**

— На вялікі жаль, не здольны. І тут вялікая доля нашай віны. Мы ўжо даўно павінны былі б паводзіць сябе больш рашуча, больш рэзка. Павінны былі даўно выходзіць на мітынгі, на вуліцу, пратэставаць. І тады, магчыма, вытрымліваліся б нейкія суадносіны сіл. Зараз недзеяздольнасцю вызначаюцца і прафсаюзы, і ўрад, які ўзяў на сябе адказнасць за ўсю вытворчасць...

— **І за ўсю сацыяльную сферу... Аляксандр Іванавіч, крытыкуючы ўлады, найперш урад, вы як быццам застрахаваліся ад абвінавачанняў у ваш бок. Маўляў, чыстая эканоміка — не справа рук і розуму прафсаюза, вось сацыяльная сфера... І ўсё ж такі, якія вашы прапановы, што, на ваш погляд, здолела б выратаваць ад сучаснага гібення эканоміку?**

— Вы памыляецеся, калі лічыце, што над разглядам эканамічных перспектыў у прафсаюзных арганізацыях не думаюць. Іншая справа, у якой ступені мы гэтым займаемся. Найперш эканамічнае праектаванне вытворчасці, увогуле жыцця — клопат спецыялістаў.

Мне здаецца, што наспела патрэба прывесці эканамічныя параметры прамысловых прадпрыемстваў да нармальных суадносінаў: аб'ёмы вытворчасці — колькасць рабочых — прадукцыйнасць. Другое — неабходна мець рэальна дзеючую праграму занятасці людзей і стварэння рабочых месцаў. Для гэтага патрэбна сапраўднае рэфарміраванне эканомікі. Прафсаюзы ніколі не дапусцяць, каб людзей выкідвалі на вуліцу. А для стварэння рабочых месцаў трэба развіваць малыя формы прадпрымальніцтва. Урад гэтым не займаецца. І калі ён не вырашыць гэтыя праблемы ў бліжэйшы час, ён стане недзеяздольным. Словам, мне здаецца, што ў пэўны час былі згублены ніці кіравання, каардынавання эканамічных заканамернасцей. Згубленае ж вяртаць даволі цяжка і складана. І тут напрошваецца такое параўнанне. Сёння мы знаходзімся калі не ля разбітага карыта, то недзе даволі блізка ад яго.

Але гатовы паўтарыць тысячу разоў: не чакайце ад прафсаюзаў эканамічна абгрунтаванай праграмы выхаду з крызісу. Так, мы ведаем, што рабіць. У нас ёсць свая лінія паводзінаў.

— **Добра, і што ж вы гатовы рабіць ужо зараз, сёння?**

— Мы будзем выступаць. Формы нашага пратэсту грамадству ўжо вядомыя. Мы разумеем, што дзяржаўны махавік шмат што можа з намі зрабіць. І ўсё ж маўчаць не будзем. Інакшай сацыяльная абароненасць людзей будзе зведзена на нішто.

На вялікі жаль, многія прафсаюзы абмяжоўваюцца тым, што ўносяць свае прапановы ва ўрад — і ўсё. Але, як на мой погляд, тады яны перастаюць быць прафсаюзамі. Наша ж задача — абараняць чалавека, кантраляваць, як на кожным узроўні выконваюцца пагадненні наймальнікаў на працу і працоўных калектываў.

— **Дарэчы, а як вы ацэньваеце сучасны стан узаемаадносінаў дзяржавы і прафсаюзаў? Нягледзячы на ўсе акалічнасці, вам усё ж для паспяховага вырашэння той ці іншай праблемы трэба кантактаваць, трэба весці нармальны дыялог.**

— Адносіны парушаюцца, пагаршаюцца з кожным днём. На пачатку 90-х гадоў былі нармальныя кантакты і з наймальнікамі на працу. І калектыўныя дагаворы, і тарыфныя пагадненні — пра ўсё гэта можна было весці размову, шукаць аптымальныя варыянты. Сёння ж адчуваецца магутны ціск на прафсаюзы.

— **Што вы ўсё ж такі прапаноўваеце?**

— Стварыць нармальныя ўмовы для фінансавай стабілізацыі ў рабоце прадпрыемстваў. Запазычанасць па энергарэсурсах і плацяжах у бюджэт за перыяд да 1 студзеня 1996 года аднесці на дзяржаўны доўг, альбо прадаставіць прадпрыемствам доўгатэрміновыя крэдыты на прымальных умовах з адтэрміноўкай пачатку выплат на 1 студзеня 1997 года, пеню ж спісаць. Трэба таксама вырашыць праблему неплацяжоў шляхам пагашэння запазычанасці паміж прадпрыемствамі, прадаставіць крэдыты на папаўненне ўласных абаротных сродкаў. Але гэтага недастаткова. Такія меры з'яўляюцца ўсяго толькі абязбольвальнымі сродкамі. А трэба ж нешта рабіць кардынальна. У першую чаргу важна рэфарміраваць падатковую сістэму. Увогуле я лічу, што становішча ў прамысловасці павінна стаць прадметам парламенцкіх слуханняў у самы бліжэйшы час.

— **Што ж, прапановы ў вас самыя рашучыя. Магчыма, на іх рэалізацыю ў нейкай ступені паўплывае працэс збліжэння з Расіяй?**

— Наўрад ці. Па-першае, нельга параўноўваць стан рэфарміравання эканомікі Расіі і Беларусі. Па-другое, у сацыяльным плане рабочы клас у нашых суседзяў знаходзіцца яшчэ ў горшым стане, чым у нас. Там, у Расіі, на многіх прадпрыемствах і па паўгода зарплату не атрымліваюць.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ФУТБОЛ-96

**16 красавіка стартаваў VI чэмпіянат Беларусі па футболу. Напэўна, за доўгі і снежны перыяд аматары скуранога мяча рэспублікі адвыклі ад цікавых футбольных баталій.**

**Аднак можна не сумнявацца, што бескампрамісныя гульні ўнутранага чэмпіянату, непрадказальныя сустрэчы ў адборачным цыкле да чэмпіянату свету-98 і матчы ў розыгрышы еўрапейскіх кубкаў кампенсуюць балельшчыкам «няўстойку» ў чаканні вялікага футбола.**

**Сёння мы прапануем чытачам «Звязды», нераўнадушным да спорту ўвогуле і да футбола — у прыватнасці, футбольны каляндар, дзякуючы якому вы зможаце спакойна арыентавацца ў футбольным жыцці краіны.**

**Позні прыход вясны паспеў унесці «карэктывы» ўжо ў першы тур. З-за вялікага снегападу, які прайшоў у Гродне, не адбыўся матч мясцовага «Нёмана» з магілёўскім «Дняпром». Поле прыйшло ў непрыгоднасць, а матч перанесены на больш позні тэрмін.**

**Не думаю, што на астатніх стадыёнах, дзе праходзілі паядынкі, было суха, аднак сустрэчы закончыліся даволі вынікова. Толькі матч магілёўскага «Тарпеда» і сталічнага «Дынама» - 93 закончыўся нулявой нічыёй, затое ў астатніх шасці гульнях мяч пабываў у варотах аж 21 раз. Найбольшая колькасць галоў была забіта ў матчы «Шахцёр» (Салігорск) — «Дынама» (Мінск). Чэмпіёны ўпэўнена выйгралі 5:1.**

*Вось вынікі астатніх сустрэч.*
*Лакаматыў-96 (Віцебск) — Нафтан-Дэвон (Наваполацк) — 2:0*
*Тарпеда (Мінск) — Маладзечна — 2:1*
*Дынама (Брэст) — Атака-Аўра (Мінск) — 1:2*
*Абутнік (Ліда) — МПКЦ (Мазыр) — 1:3*
*Ведрыч (Рэчыца) — Белшына (Бабруйск) — 1:2*
*Наступны тур пройдзе 21—22 красавіка.*

## I КРУГ

**2 ТУР**
**21 красавіка (нядзеля)**
Тарпеда Мг — Маладзечна
**22 красавіка (панядзелак)**
Нёман — Нафтан
Тарпеда Мн — Лакаматыў-96
Дынама Бр — Днепр
Абутнік — Атака-Аўра
Шахцёр — Дынама-93
Ведрыч — МПКЦ
Белшына — Дынама Мн

**3 ТУР**
**26 красавіка (пятніца)**
Дынама Мн — Ведрыч
**27 красавіка (субота)**
Нафтан — Белшына
МПКЦ — Шахцёр
Атака-Аўра — Тарпеда Мг
Маладзечна — Дынама Бр
Днепр — Тарпеда Мн
Лакаматыў-96 — Нёман
**28 красавіка (нядзеля)**
Дынама-93 — Абутнік
**1 мая (серада)**
Зборная Польшчы — Зборная Беларусі
*(таварыскія матчы маладзёжных і нацыянальных зборных)*

**4 ТУР**
**4 мая (субота)**
Дынама-93 — Нёман
**5 мая (нядзеля)**
Нафтан — Шахцёр
Ведрыч — Абутнік
Белшына — Тарпеда Мг
Дынама Мн — Дынама Бр
МПКЦ — Тарпеда Мн
Атака-Аўра — Лакаматыў-96
Маладзечна — Днепр
**9 мая (чацвер)**
МПКЦ — Атака-Аўра
Дынама-93 — пераможца пары Дынама Мн—Фомальгаўт
1/2 Фінала Кубка РБ

**5 ТУР**
**12 мая (нядзеля)**
Днепр — Нафтан
**13 мая (панядзелак)**
Лакаматыў-96 — Маладзечна
Нёман — Атака-Аўра
Тарпеда Мн. — Дынама-93
Дынама Бр — МПКЦ
Тарпеда Мг — Дынама Мн
Абутнік — Белшына
Шахцёр — Ведрыч
**17 мая (пятніца)**
Фінал Кубка РБ 1995—1996 гг.

**6 ТУР**
**21 мая (аўторак)**
Дынама-93 — Днепр
**22 мая (серада)**
Нафтан — Абутнік
Шахцёр — Тарпеда Мг
Ведрыч — Дынама Бр
Белшына — Тарпеда Мн
Дынама Мн — Нёман
МПКЦ — Лакаматыў-96
**23 мая (чацвер)**
Атака-Аўра — Маладзечна
**26 мая (нядзеля)**
Зборная Беларусі — Зборная Азербайджана (таварыскі матч)
**31 мая—1 чэрвеня (пятніца—субота)**
Зборная Швецыі — Зборная Беларусі
Адборачныя матчы чэмпіяната свету маладзёжных і нацыянальных зборных

**7 ТУР**
**3 чэрвеня (панядзелак)**
Тарпеда Мн — Дынама Мн
**4 чэрвеня (аўторак)**
Дынама Бр — Белшына
Тарпеда Мг — Ведрыч
**5 чэрвеня (серада)**
Маладзечна — Нафтан
Днепр — Атака-Аўра
Лакаматыў-96 — Дынама-93
Нёман — МПКЦ
Абутнік — Шахцёр

**8 ТУР**
**8 чэрвеня (субота)**
Тарпеда Мн — Дынама Бр
**9 чэрвеня (нядзеля)**
МПКЦ — Нафтан
Атака-Аўра — Белшына
Маладзечна — Ведрыч
Днепр — Шахцёр
Лакаматыў-96 — Абутнік
Нёман — Тарпеда Мг
**10 чэрвеня (панядзелак)**
Дынама-93 — Дынама Мн

**9 ТУР**
**15 чэрвеня (субота)**
Нафтан — Дынама Бр
Тарпеда Мг — Тарпеда Мн
Абутнік — Нёман
Шахцёр — Лакаматыў-96
Ведрыч — Днепр
Белшына — Маладзечна
Дынама Мн — Атака-Аўра
МПКЦ — Дынама-93

**10 ТУР**
**19 чэрвеня (серада)**
Атака-Аўра — МПКЦ
Маладзечна — Дынама Мн
Днепр — Белшына
Лакаматыў-96 — Ведрыч
Нёман — Шахцёр
Дынама Бр — Тарпеда Мг
**20 чэрвеня (чацвер)**
Дынама-93 — Нафтан
**21 чэрвеня (пятніца)**
Тарпеда Мн — Абутнік

**11 ТУР**
**26 чэрвеня (серада)**
Дынама-93 — Ведрыч
**27 чэрвеня (чацвер)**
МПКЦ — Белшына
Атака-Аўра — Шахцёр
Маладзечна — Абутнік
Днепр — Тарпеда Мг
Лакаматыў-96 — Дынама Бр
Нёман — Тарпеда Мн
**28 чэрвеня (пятніца)**
Дынама Мн — Нафтан

**12 ТУР**
**3 ліпеня (серада)**
Нафтан — Тарпеда Мн
Дынама Бр — Нёман
Тарпеда Мг — Лакаматыў-96
Абутнік — Днепр
Шахцёр — Маладзечна
Ведрыч — Атака-Аўра
Белшына — Дынама-93
Дынама Мн — МПКЦ

**13 ТУР**
**10 ліпеня (серада)**
Атака-Аўра — Нафтан
Маладзечна — Дынама-93
Днепр — МПКЦ
Лакаматыў-96 — Дынама Мн
Нёман — Белшына
Тарпеда Мн — Ведрыч
Дынама Бр — Шахцёр
**11 ліпеня (чацвер)**
Тарпеда Мг — Абутнік

**14 ТУР**
**16 ліпеня (аўторак)**
Дынама Мн — Днепр
**17 ліпеня (серада)**
Нафтан — Тарпеда Мг
Абутнік — Дынама Бр
Шахцёр — Тарпеда Мн
Ведрыч — Нёман
Белшына — Лакаматыў-96
МПКЦ — Маладзечна
Дынама-93 — Атака-Аўра
**21 ліпеня (нядзеля)**
*Рэзервовы дзень*
**24 ліпеня (серада)**
1/16 Фінала Кубка РБ 1996—1997 гг.

**15 ТУР**
**26 ліпеня (пятніца)**
Дынама Мн — Абутнік
**27 ліпеня (субота)**
Нафтан — Ведрыч
Белшына — Шахцёр
МПКЦ — Тарпеда Мг
Атака-Аўра — Тарпеда Мн
Маладзечна — Нёман
Днепр — Лакаматыў-96
**28 ліпеня (нядзеля)**
Дынама-93 — Дынама Бр
**31 ліпеня (серада)**
Зборная Беларусі — Зборная Літвы (таварыскі матч)

## 2 КРУГ

**3—4 жніўня (субота—нядзеля)**
1/8 Фінала Кубка РБ
**6—8 жніўня (аўторак—чацвер)**
Кубкі УЕФА — папярэдні этап

**16 ТУР**
**11 жніўня (нядзеля)**
Нафтан — Лакаматыў-96
Днепр — Нёман
Маладзечна — Тарпеда Мн
Дынама Мн — Шахцёр
Белшына — Ведрыч
**12 жніўня (панядзелак)**
МПКЦ — Абутнік
Атака-Аўра — Дынама Бр
**13 жніўня (аўторак)**
Дынама-93 — Тарпеда Мг

**17 ТУР**
**16 жніўня (пятніца)**
Нафтан — Нёман
Лакаматыў-96 — Тарпеда Мн
Дынама Мн — Белшына
**17 жніўня (субота)**
Днепр — Дынама Бр
МПКЦ — Ведрыч
Маладзечна — Тарпеда Мг
Атака-Аўра — Абутнік
**18 жніўня (нядзеля)**
Дынама-93 — Шахцёр
**20—22 жніўня (аўторак—чацвер)**
Кубкі УЕФА — папярэдні этап

**18 ТУР**
**25 жніўня (нядзеля)**
Белшына — Нафтан
Ведрыч — Дынама Мн
Дынама Бр — Маладзечна
Тарпеда Мн — Днепр
Нёман — Лакаматыў-96
**26 жніўня (панядзелак)**
Шахцёр — МПКЦ
Абутнік — Дынама-93
Тарпеда Мг — Атака-Аўра
**30—31 жніўня (пятніца—субота)**
Зборная Беларусі — Зборная Эстоніі
Адборачныя матчы чэмпіяната свету маладзёжных і нацыянальных зборных

**19 ТУР**
**3 верасня (аўторак)**
Тарпеда Мг — Белшына
**4 верасня (серада)**
Шахцёр — Нафтан
Абутнік — Ведрыч
Дынама Бр — Дынама Мн
Тарпеда Мн — МПКЦ
Нёман — Дынама-93
Лакаматыў-96 — Атака-Аўра
Днепр — Маладзечна

**20 ТУР**
**7 верасня (субота)**
Дынама Мн — Тарпеда Мг
**8 верасня (нядзеля)**
Нафтан — Днепр
Маладзечна — Лакаматыў-96
Атака-Аўра — Нёман
МПКЦ — Дынама Бр
Белшына — Абутнік
Ведрыч — Шахцёр
**9 верасня (панядзелак)**
Дынама-93 — Тарпеда Мн
**10 верасня (аўторак)**
Кубак УЕФА 1/32 фінала
**12 верасня (чацвер)**
Кубак Кубкаў 1/16 фінала

**21 ТУР**
**15 верасня (нядзеля)**
Абутнік — Нафтан
Тарпеда Мг — Шахцёр
Дынама Бр — Ведрыч
Тарпеда Мн — Белшына
Нёман — Дынама Мн
**16 верасня (панядзелак)**
Днепр — Дынама-93
Маладзечна — Атака-Аўра
Лакаматыў-96 — МПКЦ

**22 ТУР**
**18 верасня (серада)**
Дынама Мн — Тарпеда Мн
**19 верасня (чацвер)**
Нафтан — Маладзечна
Дынама-93 — Лакаматыў-96
МПКЦ — Нёман
Белшына — Дынама Бр
Ведрыч — Тарпеда Мг
Шахцёр — Абутнік
**20 верасня (пятніца)**
Атака-Аўра — Днепр

**23 ТУР**
**21 верасня (субота)**
Дынама Мн — Дынама-93
**23 верасня (панядзелак)**
Нафтан — МПКЦ
Ведрыч — Маладзечна
Абутнік — Лакаматыў-96
Тарпеда Мг — Нёман
Дынама Бр — Тарпеда Мн
**24 верасня (аўторак)**
Шахцёр — Днепр
Белшына — Атака-Аўра
**24 верасня (аўторак)**
Кубак УЕФА 1/32 фінала
**26 верасня (чацвер)**
Кубак Кубкаў 1/16 фінала

**24 ТУР**
**29 верасня (нядзеля)**
Дынама Бр — Нафтан
Тарпеда Мн — Тарпеда Мг
Нёман — Абутнік
Лакаматыў-96 — Шахцёр
Днепр — Ведрыч
Маладзечна — Белшына
**30 верасня (панядзелак)**
Атака-Аўра — Дынама Мн
**1 кастрычніка (аўторак)**
Дынама-93 — МПКЦ
**4-5 кастрычніка (пятніца—субота)**
Зборная Эстоніі — Зборная Беларусі
Адборачныя матчы чэмпіяната свету маладзёжных і нацыянальных зборных
**9—10 кастрычніка (серада—чацвер)**
Зборная Беларусі — Зборная Латвіі
Адборачныя матчы чэмпіяната свету нацыянальных і маладзёжных зборных

**25 ТУР**
13 кастрычніка (нядзеля)
Нафтан — Дынама-93
МПКЦ — Атака-Аўра
Дынама Мн — Маладзечна
Белшына — Днепр
Ведрыч — Лакаматыў-96
Шахцёр — Нёман
Абутнік — Тарпеда Мн
Тарпеда Мг — Дынама Бр
**15 кастрычніка (аўторак)**
Кубак УЕФА 1/16 фінала
**16 кастрычніка (серада)**
*Рэзервовы дзень*
**17 кастрычніка (чацвер)**
Кубак Кубкаў 1/8 фінала

**26 ТУР**
**19 кастрычніка (субота)**
Абутнік — Маладзечна
Тарпеда Мг — Днепр
Дынама Бр — Лакаматыў-96
Тарпеда Мн — Нёман
Нафтан — Дынама Мн
**20 кастрычніка (нядзеля)**
Ведрыч — Дынама-93
Белшына — МПКЦ
Шахцёр — Атака-Аўра

**27 ТУР**
**23 кастрычніка (серада)**
Тарпеда Мн — Нафтан
Нёман — Дынама Бр
Лакаматыў-96 — Тарпеда Мг
Днепр — Абутнік
Маладзечна — Шахцёр
**24 кастрычніка (чацвер)**
МПКЦ — Дынама Мн
Атака-Аўра — Ведрыч
Дынама-93 — Белшына

**28 ТУР**
**27 кастрычніка (нядзеля)**
Шахцёр — Дынама Бр
Абутнік — Тарпеда Мг
Дынама-93 — Маладзечна
**28 кастрычніка (панядзелак)**
Нафтан — Атака-Аўра
Дынама Мн — Лакаматыў-96
МПКЦ — Днепр
Белшына — Нёман
Ведрыч — Тарпеда Мн
**29 кастрычніка (аўторак)**
Кубак УЕФА 1/16 фінала
**31 кастрычніка (чацвер)**
Кубак Кубкаў 1/8 фінала
**3 лістапада (нядзеля)**
*Рэзервовы дзень*

**29 ТУР**
**5 лістапада (аўторак)**
Тарпеда Мг — Нафтан
Тарпеда Мн — Шахцёр
**6 лістапада (серада)**
Дынама Бр — Абутнік
Нёман — Ведрыч
Лакаматыў-96 — Белшына
Днепр — Дынама Мн
Маладзечна — МПКЦ
Атака-Аўра — Дынама-93

**30 ТУР**
**10 лістапада (нядзеля)**
Ведрыч — Нафтан
Шахцёр — Белшына
Абутнік — Дынама Мн
Тарпеда Мг — МПКЦ
Дынама Бр — Дынама-93
Тарпеда Мн — Атака-Аўра
Нёман — Маладзечна
Лакаматыў-96 — Днепр



# ФРАНЦУЗСКІ КІЁСК, ЯКІ НЕ ГАНДЛЮЕ

Толькі французам прыйшло ў галаву назваць кіёскам (слова, якое ў большасці нашых суграмадзян асацыіруецца з канкрэтным і далёка не лепшым вынікам пераходу да рынку) гэту па ўсіх мерках гуманітарную акцыю. А справа вось у чым. Не так даўно па ініцыятыве французскага пасольства ў Беларусі ў памяшканні Мінскай абласной бібліятэкі імя Пушкіна адкрыўся зал перыядычных выданняў Францыі. Супрацоўнікі пасольства чамусьці прапанавалі назваць яго кіёскам. Хаця ў ім папулярныя і вядомыя ў свеце газеты і часопісы даюць чытаць бясплатна. І што самае цікавае — іх можна браць дамоў. Між тым, уласныя замежныя выданні бібліятэка не дазваляе выносіць.

Сёння ў гэтым кіёску, які больш нагадвае па сутнасці цэнтр прэсы, чытачы з веданнем французскай мовы могуць азнаёміцца з публікацыямі 30 разнастайных выданняў. Тут прадстаўлены ўвесь спектр друку Францыі. Ніводная бібліятэка Беларусі не можа дазволіць сабе раскошу выпісаць адразу столькі замежных газет і часопісаў. Для параўнання з нашым друкам скажам, што гадавая падпіска на газету «Пары-матч» каштуе каля 200 долараў ЗША.

Раз у тыдзень у бібліятэку паступаюць свежыя нумары перыёдыкі з пасольства.

А пачалося супрацоўніцтва пасольства з бібліятэкай пасля таго, як Наталля Баброва, загадчыца сектара замежнай літаратуры, тры гады назад выйграла конкурс і атрымала магчымасць стажыравацца і працаваць у лепшых бібліятэках Парыжа, Ліёна і Сент-Эцьена. Тады ў яе і завязаліся сувязі з французскім пасольствам. Яны разам правялі шэраг цікавых мерапрыемстваў — свята кнігі і інш.

У планах пасольства і бібліятэкі — стварэнне на базе апошняй інфармацыйнага цэнтра, дзе можна будзе атрымаць любую інфармацыю аб Францыі, яе гісторыі, эканоміцы, культуры.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**



## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| **Мінск –** | **6.03** | **20.16** | **14.13** |
| **Віцебск –** | **5.50** | **20.09** | **14.19** |
| **Магілёў –** | **5.25** | **20.05** | **14.13** |
| **Гомель –** | **5.50** | **20.00** | **14.10** |
| **Гродна –** | **6.16** | **20.32** | **14.16** |
| **Брэст –** | **6.23** | **20.27** | **14.04** |

### МЕСЯЦ

**Маладзік 18 красавіка**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Марка, Платона, Феадоры**
**К. Апалонія, Багуславы**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра ў Магілёве — 12—14, Гродне, Гомелі, Мінску — 13—15, Брэсце — 14—16, Віцебску — 11—13 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак надвор'е істотна не зменіцца. Тэмпература ўначы — мінус 1—плюс 4, удзень 12—17, 20-га па захаду да 20 градусаў цяпла.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 18 КРАСАВІКА

У бліжэйшыя суткі надвор'е істотна не зменіцца. Паяўленне выражаных метэапатычных рэакцый у большасці метэазалежных хворых малаверагодна. Рэкамендуецца расшырыць фізічную актыўнасць, больш гуляць на свежым паветры, часцей праветрываць памяшканні.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**




## РАССУХАРВАННЕ КЛАПАНАЎ

Выконваючы гэтую аперацыю, трэба чым-небудзь падліраць знізу клапан, не даючы яму апусціцца. Звычайна падвёўшы поршань да верхняга мёртвага пункта, у адтуліну пад свечку ўводзяць адвёртку так, каб яна трапіла паміж поршнем і талеркай клапана, які падвяргаецца рассухарванню. Гэта не вельмі зручна. Можа пашкодзіцца і поршань з клапанам, і разьба ў свечкавай адтуліне.

Лепш пад клапан выкарыстаць пруток прыпою з дыяметрам 8 мм. Ён добры тым, што прутку лёгка надаць любую форму, а пашкоджання дэталей не будзе.

Каб «сухары» нечакана не падалі і не губляліся, дапаможа невялікі, але моцны магніт, які трымаюць побач. Нават калі «сухарык» з пстрычкай адарвецца, магніт не дазволіць яму згубіцца.

***ВЫ ПРАСІЛІ РАСКАЗАЦЬ***

## ВЕДАННЕ ПРАВІЛАЎ І ЎПЭЎНЕНЫЯ НАВЫКІ — АСНОВА БЯСПЕКІ НА ДАРОГАХ

*Паважаная рэдакцыя, з задавальненнем чытаю «Звязду». Асабліва тое, што датычыцца парад для сям'і, дома, жанчынам («Хатняя энцыклапедыя», «Сядзіба», «36,6»). Звярнула ўвагу і на новую падборку матэрыялаў для аўтааматараў «Лаўка аўтааматара». Як своечасова гэта зроблена! Я сама хачу навучыцца кіраваць аўтамабілем. Раней можна было здаць экстэрнам, а цяпер абавязкова трэба ісці на курсы. Парайце мне, дзе можна запісацца на такія курсы, а заадно і раскажыце, што яны цяпер сабой уяўляюць і колькі гэта будзе каштаваць?*

*З удзячнасцю*

*пастаянная падпісчыца і чытачка «Звязды» з Мінска Алена ГРЫБОВІЧ.*

Мы з павагай ставімся да любой думкі і розных пажаданняў нашых чытачоў, таму не можам пакінуць без увагі і просьбу Алены Грыбовіч. Тым больш, што, сапраўды, гэта праблема цікавіць многіх. Каб атрымаць кампетэнтныя адказы на пытанні нашай чытачкі, мы звярнуліся да вопытнага, са шматгадовым стажам, выкладчыка курсаў па навучанню кіраванню аўтамабілем фірмы «Аўтасправа» Барыса Бейліна.

**— Барыс Піліпавіч, мабыць, не памылюся, калі скажу, што назіраецца сапраўдны «бум» у імкненні навучыцца і атрымаць пасведчанне на кіраванне аўтамабілем?**

— Гэта сапраўды так. Зірніце, колькі аўтамашын на вуліцах Мінска і іншых гарадоў рэспублікі. Мяркую, іх колькасць будзе расці, таму што жадаючых навучыцца імі кіраваць вельмі многа, запісацца на курсы складана — чэргі.

**— Можа таму, што гэтай справай займаецца мала арганізацый і фірмаў?**

— Не думаю. Толькі ў Мінску ліцэнзіі на права займацца падрыхтоўкай вадзіцеляў розных катэгорый маюць трыццаць арганізацый. У кожнай з іх скамплектавана не менш як тры групы слухачоў. Напрыклад, у СТК МЗКР, дзе я працаваў раней, у групах займаецца па 35 чалавек. Вось і лічыце, колькі новых патэнцыяльных удзельнікаў дарожнага руху можа з'явіцца адначасова.

**— Барыс Піліпавіч, больш як чвэрць стагоддзя вы рыхтуеце будучых вадзіцеляў. Ці можаце параўнаць кантынгент слухачоў з тымі, хто вучыўся, напрыклад, дваццаць гадоў таму? Наколькі больш эфектыўная вучоба, калі яны ўжо маюць свае аўтамабілі?**

— Вядома, калі хтосьці мае свой аўтамабіль і ўжо сядзеў за рулём, дык той, безумоўна, лепш і хутчэй засвойвае матэрыял навучання. А наконт кантынгенту... Складанае пытанне. Скажу так: цяпер няма той прагі ведаў, якая была раней. Некаторыя лічаць: грошы заплаціў за вучобу, таму ўсё роўна атрымаю пасведчанне...

**— Ці ўсе здаюць экзамен у дзяржаўтаінспекцыі?**

— Не. Але ім даецца права (калі не здаў правілы дарожнага руху — тэарэтычны экзамен) праз 10 ці болей дзён паспрабаваць здаць яшчэ раз. Тэарэтычны экзамен можна здаваць неабмежаваную колькасць разоў. Праўда, гэта ненармальна, і я нікому не жадаў бы такога.

Калі здадзены вышэйпамянёны экзамен, вы атрымліваеце допуск да практычнага экзамена (паркоўка, заезд у гараж і на эстакаду, язда па горадзе). Яго можна здаваць на працягу трох месяцаў, але калі ў гэты тэрмін не ўклаліся, то прыйдзецца паўторна здаваць правілы дарожнага руху.

Хачу падкрэсліць, што ў праграме падрыхтоўкі мы зрабілі ўсё, каб чалавек мог падрыхтавацца і здаць экзамен. У ДАІ таксама імкнуцца аб'ектыўна ацаніць веды і ўменні кандыдата ў вадзіцелі. Калі апошні ведае і ўмее, ён абавязкова атрымае пасведчанне на права кіравання аўтамабілем. І — шчаслівай дарогі!

**— Кажуць, усе вашы, Барыс Піліпавіч, слухачы звычайна здаюць экзамены і ў ДАІ?**

— Не ўсе здаюць з першага разу, але працэнт высокі. Апошнім часам дзяржаўтаінспекцыя ўзмацняе свае патрабаванні, а мы ў сваю чаргу таксама імкнёмся павысіць якасць падрыхтоўкі слухачоў. Наша фірма «Аўтасправа» існуе два гады. Маецца тры абсталяваныя класы, пяць апаратаў «Вятка», сем новых аўтамашын «Жыгулі», працуюць выкладчыкі высокай кваліфікацыі — з вышэйшай ці сярэдняй тэхнічнай адукацыяй.

**— Якой форме аддаюць перавагу слухачы?**

— Дзевяць нашых груп займаюцца раніцай (з 9 гадзін) і вечарам (з 18 гадзін). А нядаўна мы адкрылі групу паскоранай падрыхтоўкі. Слухачы займаюцца пяць дзён у тыдзень з 9 гадзін раніцы. Замест трох з паловай месяцаў яны праходзяць праграму навучання за два месяцы дваццаць дзён. Адбою няма ад жадаючых трапіць у гэту групу. Людзі хочуць добра вывучыць правілы дарожнага руху і ўпэўнена сесці за руль аўтамабіля.

**— Але ж у свой час ДАІ забараніла паскоранае навучанне.**

— ДАІ забараніла экспрэс-падрыхтоўку, калі чалавек сам рыхтаваўся і здаваў экзамены ў дзяржаўтаінспекцыі.

**— Колькі ж каштуе само навучанне і дзе вас знайсці?**

— Тры мільёны шэсцьсот тысяч рублёў. Думаю, гэта даступны кошт навучання больш чым за тры месяцы. Знаходзімся мы ў цэнтры горада, побач са станцыяй метро «Маскоўская», па праспекце Скарыны, 98.

**— Дабірацца да вас, сапраўды, зручна. Наша чытачка Алена Грыбовіч, мяркую, будзе задаволена. Дарэчы, Барыс Піліпавіч, у вас на курсах ці шмат жанчын займаецца?**

— Эмансіпацыя жанчын, як вядома, пачалася з семнаццатага года. Шкада, некаторыя з іх так эмансіпіраваліся, што калі-нікалі нават забываюцца, што яны жанчыны. Калі ж сур'ёзна, дык у нас з 35 слухачоў звычайна 12—15 жанчын. Існуе меркаванне, што жанчына за рулём — гэта злачынца на дарогах. Статыстыка ж сведчыць пра іншае: жанчына за рулём — гэта захаванне правілаў дарожнага руху, гэта бяспека. Тым не менш, мужчыны-аўтааматары павінны быць больш уважлівымі, лаяльнымі і цярплівымі да сваіх калег-жанчын, калі яны несвоечасова далі ім неабходную ў час руху інфармацыю. Мы будзем рады бачыць у нас жанчын. Я зноў звярнуся да мужчын — іх мужоў: не накіроўвайце на курсы сваіх жанок з мэтай, каб потым яны маглі адвезці вас дамоў пасля добрага гасцявання. Толькі навыкі, уменне і прафесіяналізм — гарантыя бяспекі руху на дарогах.

Той, хто прыйдзе да нас вучыцца, не пашкадуе. Мы працуем для слухачоў, а не яны — для нас. Мы працуем так, каб яны атрымалі не толькі добрыя веды, але і ўпэўненасць у кіраванні аўтамабілем, а значыць, падтрымлівалі б і бяспеку руху на дарогах.

**Уладзімір ПАЛЯШУК.**

## ЗРУЧНАЯ КАНТРОЎКА

Пры замене ніжняй шаравой апоры пярэдняй падвескі ў «Жыгулях» адваротная частка шаравога кольца ўпіраецца ў паваротны кулак. Каб яе ссунуць далей, трэба выбіць палец. Але калі апора старая і вельмі аслабленая, палец сядзіць у ёй настолькі свабодна, што адкруціць гайку — сур'ёзная праблема, паколькі яна круціцца разам з пальцам, а захапіць яго чым-небудзь і ўтрымаць вельмі цяжка.




Можна аблегчыць сабе працу, калі замест высокай гайкі, якая кантруецца сама, паставіць звычайную, што не зніжае моцнасць вузла, а разьбовую частку кольца на новай апоры стачыць на 4-5 мм. Гайку трэба законтрыць самаробнай пласцінай са сталі таўшчынёй 1 мм, як паказана на малюнку.

Кантроўка гайкі 1 з дапамогай пласціны 2 на паваротным кулаку 3.

## ФІЛЬТР БУДЗЕ СЛУЖЫЦЬ ДОЎГА

Пры замене сухога элемента паветранага фільтра ў «Жыгулях» і «Масквічах» часам можна ўбачыць сляды ад пранікнення пылу праз шчыліны паміж тарцамі фільтра і дэталямі яго корпуса. Гэта акалічнасць і, акрамя таго, вельмі хуткае забруджванне фільтра на пыльных дарогах прымушаюць вопытных вадзіцеляў рабіць невялікае дапаўненне да штатнага элемента.

З паралону таўшчынёй 10—12 мм выразаюць палоску шырынёй 80—90 мм і даўжынёй 680—700 мм. Сшываюць яе ў кольца і надзяваюць зверху новага элемента, спачатку крыху намачыўшы паралон маторным маслам. Праз кожныя 5000 кіламетраў здымаюць паралонавае кольца і мыюць яго ў вадзе з пральным парашком, пасля чаго сушаць і, зноў гэтак жа намачыўшы маслам, вяртаюць на месца.

У выніку такой мадэрнізацыі фільтра зусім знікнуць сляды пылу за ім у корпусе.

## РАМОНТ РОТАРА РАЗМЕРКАВАЛЬНІКА

Калі ў дарозе пры пошуку няспраўнасці сістэмы запальвання вы знойдзеце, што рэзістар перагарэў, то замяніце яго перамычкай з тоўстага меднага ці любога іншага дроту. Зразумела, што пры першым жа зручным выпадку трэба паставіць непашкоджаны рэзістар.

## РАМОНТ КАТУШКІ ЗАПАЛЬВАННЯ

У аўтамабілях «Масквіч-2140», «АЗАК-21412», «ЗАЗ-968М» прычынай спынення рухавіка пасля выключэння стартэра часта бывае выхад са строю ці ненадзейнасць злучэння дадатковага рэзістара катушкі запальвання. Каб рухавік нармальна працаваў, замкніце абодва вывады рэзістара дадатковым правадніком. Гэта добрае выйсце са становішча, але паспрабуйце хутчэй знайсці і ўстанавіць спраўны дадатковы рэзістар, інакш выйдзе са строю катушка запальвання.

## КАБ ПАЛЕПШЫЦЬ ЗМАЗКУ

Пры самастойным разбіранні і збіранні карданных шарніраў «Жыгулёў» аўтааматары карыстаюцца тым наборам стопарных кольцаў, якія ўжо стаяў на вілках шарніраў. Часцей гэта прыводзіць да таго, што пры замене дэталяў — крыжавін і падшыпнікаў прапануемыя заводам зазоры паміж тарцамі крыжавін і донцамі падшыпнікаў вельмі мо-цна змяншаюцца. Гэта, зразумела, прыводзіць да парушэння змазкі падшыпнікаў.




Трэба зрабіць на тарцах крыжавін канаўкі, як паказана на малюнку. Глыбіня канаўкі — 0,5—0,6 мм, шырыня — 1,6—1,8 мм. Праз іх змазка пры любой якасці зборкі абавязкова трапіць да іголак падшыпнікаў.



***ГЭТА ЦІКАВА***

## Снег выпадае не толькі вясной, але і ... летам

**Што паказалі шматгадовыя назіранні за надвор'ем?**

Сёлета доўгачаканая вясна затрымалася і не хоча парадаваць нас сваім прыемным цяплом. Яна падносіць нам свае сюрпрызы. Дарэчы, у 1952 годзе 19, 20 і 21 мая падаў мокры снег. У гэты час якраз цвілі сады. Многія з іх былі пашкоджаны. І ў 1977 годзе 1 красавіка ішоў снег. Сёлета без яго ў гэты дзень таксама не абышлося.

Вельмі суровая зіма была ў 1930—31 гг. Вельмі шмат выпала снегу. Вясной вада хлынула паверх мастоў. Я тады жыў у Слуцку і са сваімі сябрамі хадзіў назіраць гэту з'яву. На нашых вачах знясло дзядзьку, які ехаў на падводзе дадому. Чалавека выратавалі, а конь і воз патанулі.

Сёлетняя зіма па сваіх тэмпературных паказчыках паветра набліжалася да зім 1955-56 і 1975-76 гг. Паводле маіх назіранняў, такі інтэрвал складае 19—20 гадоў. Напрыклад, 8 красавіка 1976 г. тэмпература раніцай была 0, удзень — + 10. У бягучым годзе ў гэты дзень было раніцай 0, а ўдзень — +10—12. Такія блізкія паказчыкі зарэгістраваны і ў іншыя дні красавіка.

Людзі кажуць, што надвор'е змянілася з-за палёту розных спадарожнікаў. Цікава тады ведаць, якое ж надвор'е было раней.

Вось «Пскоўскія летапісы» паведамлялі, што 1 верасня 1601 года выпаў снег. Загінулі пасевы збожжавых і ўсёй агародніны.

Прыкладна ў гэты перыяд у Вялікім княстве Літоўскім, у састаў якога ўваходзіла Беларусь, у чэрвені былі маразы, таксама загінулі пасевы каласавых, з-за гэтага ў княстве ўзнік вялікі голад.

А вось што пісалася пад фотаздымкам, які быў змешчаны ў часопісе «Огонек» № 23 ад 5(18) чэрвеня 1916 года. У Казані паднялася моцная снежная мяцеліца, якая доўжылася каля 4 гадзін. Зямля пакрылася снегам на 5 вяршкоў (каля 29 см). Былі пашкоджаны сады, агароды. А фотаздымак быў зроблены 19 мая ў 12 гадзін дня.

Варшаўская «Газета свянтэчна» № 1014 ад 10 чэрвеня 1901 г. паведамляла, што ў губерні Келецкай цяжка было дачакацца цяпла. У нядзелю 20 мая жыхары ішлі ў касцёл у кажухах і зімовых шапках. Самотна было на палетках. Толькі пшаніца выглядала трошкі лепшай, хоць і маленькай.

Як відаць з вышэйсказанага, спадарожнікі тут не вінаваты. Іх тады зусім не было.

Усе гэтыя звесткі з часопіса і газет узяты з майго асабістага архіва.

**Міхаіл ВАСІЛЮК.**

г. Мінск.

Згубленае пасведчанне інваліда III гр. № 037228 серыі 07, выдадзенае на імя Захаркевіча Валянціна Іванавіча, лічыць несапраўдным.



## ВІНШУЕМ!

Віншуем з днём нараджэння любую матулю Камель Марыю Пятроўну. Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту. Дзеці.

Віншуем з днём нараджэння дарагую Наташу. Жадаем здароўя, шчасця, радасці, удачы ва ўсіх справах. Твае мама, тата, брат Толя (г. Глыбокае).

Сардэчна віншуем дарагую мамачку Ільёву Ганну Яфімаўну з юбілейным годам нараджэння. Жадаем моцнага здароўя і ўсяго самага найлепшага ў жыцці. Муж, сын Міша, унук Слава.


ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.



Рэгістрацыйны нумар 1.



*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*





Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100634. Індэкс 63850.
Зак. № 1930.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12